лівым і ў той жа час патрабавальна-строгім. Якасці ў сённяшнім літаратурным жыцці, скажам прама, не дужа частыя.

Пра плённае настаўніцтва Аляксея Васільевіча яскрава гавораць шматлікія публікацыі ў «ЛіМе» дэбютантаў з Магілёўшчыны ў сямідзесятыя гады, калі ён працаваў адказным сакратаром абласнога аддзялення СП БССР. На жаль, сёння дэбютантаў з магілёўскай зямлі, некалі шчодрай на таленты, амаль не чуваць.

Але я ўзяўся за пяро не толькі дзеля таго, каб яшчэ раз нагадаць, які цудоўны паэт і чалавек быў Аляксей Пысін. (Хоць і гэта рабіць, відаць, трэба часцей).

Я хачу сказаць вось пра што: ужо каторы год у Магілёве на праспекце Міру на доме 35-А вісіць мемарыяльная дошка з барэльефам паэта, якая сведчыць пра тое, што тут некалі жыў «заслуженный деятель культуры, лауреат Государственной премии БССР Пысин Алексей Васильевич». Так, так, я не памыліўся — надпіс зроблены па-руску. Навошта? Дзеля чаго? У чыім кабінеце, у галаве якога «звышінтэрнацыяналіста» нарадзілася гэтая ідэя?

Дарэчы, пра тое, што Аляксей Пысін паэт, выдатны паэт, на дошцы нічога не сказана. Відаць, для аўтараў тэксту, выхаваных у вялікай пашане да табеля аб рангах, здалося дастатковым, што «деятель» і што «заслуженный»...

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ.**

●

Прапаную некалькі радкоў увазе чытачоў «ЛіМа». Вось чым яны падказаны. Ішоў справаздачна-выбарчы сход камуністаў Мінскага СКБ працяжных станкоў. У перапынку, выкліканым падлікам галасоў, адбылася размова прысутных з загадчыкам аддзела аргпартработы Мінскага абкома КПБ Ф. І. Клюкачам. Партыйны кіраўнік спусціўся з прэзідыума ў залу і пасля невялікага ўступу зазначыў, што хаця ён і не прафесійны журналіст, але цікавіцца пытаннямі друку. «Асабіста мне не падабаецца, што газеты многія пытанні асвятляюць неадназначна», — зазначыў ён, абвінаваціў «ЛіМ» у прадузятым асвятленні падзей у Курапатах, папракнуў Зянона Пазняка ў тым, што той даў інтэрв'ю шматтыражцы Мінскага вытворчага аб'яднання «Прамень». Праўда, размову хутка ўдалося павярнуць удзельнікам гутаркі ў іншае рэчышча, але ў мяне, як прыхільніка вашай газеты, засталося непрыемнае ўражанне. Ці да твару партыйнаму кіраўніку такога рангу займацца, па сутнасці, агітацыяй супраць выкрыцця злачынстваў сталіншчыны.

Друк, у прыватнасці «ЛіМ», падымае такія пытанні, на якія не заўсёды і не ўсім проста адказаць. Вось некаторыя і шукаюць выйсце, робяць захады, каб неяк прыглушыць важкасць той або іншай публікацыі. Дарэчы, той жа загадчык аддзела, напрыклад, спаслаўся на нібыта меўшыя месца факты расстрэлу ў Курапатах патрыётаў-падпольшчыкаў у гады вайны. Я асабіста дагэтуль такой інфармацыі не сустракаў (як вядома, злачынствы фашыстаў на акупіраваных тэрыторыях расследавала спецыяльная ўрадавая камісія). Гэта па-першае. Па-другое, хіба нельга дапусціць (і хіба не было так?), што ў адных і тых жа лясных мясцінах расстрэльвалі ў 30-ых свае, а ў час вайны фашысты?

**В. ХУРСІК,**
**інжынер-канструктар**
**Мінскага СКБ працяжных станкоў.**

●

Кожны раз, калі праходжу праз сквер, што на скрыжаванні вуліц Свярдлова і Кірава, заўсёды мільгане думка: а можа, усё-такі лепшае месца для помніка Цішку Гартнаму тут, у гэтым скверы, заўсёды людным? Калісь тут, у цэнтры сквера, стаяў вялікі камень з надпісам: «Тут будзе пабудаваны помнік...»

Але час ішоў, і нават старыя жыхары горада забыліся, каму хацелі будаваць помнік, а потым і гэты камень прыбралі.

На гэтым месцы і госці, якія выходзяць у горад з боку чыгуначнага вакзала, і мінчане заўсёды маглі б пакланіцца гэтаму выдатнаму чалавеку, паэту, акадэміку, грамадскаму дзеячу.

Не трэба мануменальнага збудавання, хай гэта будзе просты, сціплы помнік, але зроблены ад усяго сэрца і душы.

І яшчэ хочацца ўзняць адно пытанне. А калі ж гэта ў нас у Мінску пабудуюць, нарэшце, Палац моладзі, ці хоць проста Дом моладзі, каб яна магла дзе адпачыць, цікава правесці свой вольны час?..

Ёсць у нас і Палац спорту, і Дом настаўніка, і Палац мастацтваў, і Дом прафсаюзаў, зусім нядаўна на беразе Свіслачы пабудаваны Дом палітасветы, будуецца Палац рэспублікі... А вось для Палаца моладзі не знайшлося месца. Бо толькі лаянкай, што моладзь такая-сякая, праблемы выхавання не вырашыць. Хай бы яна, моладзь, мела свой дом, дзе б магла наладжваць сустрэчы.

**Уладзімір ГОЛУБЕЎ,**
**служачы Мінскага**
**велазавода.**

Суды, расстрэлы... Пільнасці псіхоз
каціўся цёмнай хваляю чарговай
і д'ябал нейкі ў ніцых душах рос,
пісаў паклёп на блізкіх ці данос
на ўсмешку, вольна сказанае слова.

А з рупараў, з эстрад, газет штодня
пра шчасце жыць і радасныя песні,
жытло ж чыёсьці ўночы
,лыдні трэслі,
у спіс пакут стаўлялася радня.

Хто скажа лік панішчаных
і зганеных,
і колькі за «калючкаю» прайшло,
і нас усіх надзейна абалваненых?
О колькі з верай у дабро жыло!

Цяпер чытаць пра «справы», лютасць катаў
з віною нейкай...
Каб я ведаць мог?
Напэўна б там, ля Мінска, ў Курапатах
уночы ў яму безымянна лёг.

Запозна выкрываецца злачынства.
Мой родны край, з «навукаю» відна
дарога нам ужо да праўды чыстай...
Дажыць бы мне
да заўтрашняга дня!

20.X.1988.

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

## *Каму і з кім не па дарозе?*

Дабру і злу!
Мяркуйце самі:
Дабро — у поле, хлеб расціць,
А зло — касцямі, чарапамі
У Курапатах дол масціць.

Любоў і страх —
Адвеку розны
Трымаюць след між палыну:
Любоў глядзіць на край свой родны,
А страх — глядзіць на Калыму...

Сумленню з подласцю ў суполцы
Ганебна мераць шлях стары:
Сумленне рвецца ўвысь, да сонца,
А подласць — шчэрыцца ў нары.

Рука ў руку з хлуснёю
Праўда
Не пойдзе побач — хоць звяжы!
Бо праўда свет кіруе ў заўтра,
Хлусня — да гібельнай мяжы.

Куды ж і з кім па безгалоўю
Ісці Табе — праз буралом?
З любоўю, братачка, з любоўю!
З сумленнем,
З праўдай
І з дабром!

24.X.1988.

## *На новым вітку*

Чаго вам хочацца, панове?
Янка КУПАЛА.

Вось і судзіў нам лёс нанова
Пытанне кінуць у хаўрус:
«Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус?..»

Чаго ім хочацца?.. Ды ясна:
Душу зямлі абрабаваць.
Зрабіць нямой, без мовы ўласнай.
Лягчэй бязмоўнай кіраваць!

Яшчэ, відаць, ідуць падлікі,
Што мала даў народ ахвяр,
Пакуль апошні, найвялікі
Ягоны скарб не ўкраў ліхвяр.

Не штось прыватнае, не дробязь,
Не асабісты нейчы спрат —
Народа гонар, славу, доблесць
Наважыў сплюндрыць тарбахват.

Таму й пукчыць-букчыць злавесна,
Што не ўдаецца адлучыць
Ад роднай мовы, роднай песні...
Што ж, хай пукчыць! Няхай букчыць!

Якое прагне ён мастацтва
Накінуць нам (пачом кіло?) —
Народ спазнаў і святатацтва
Не ўчыніць, сам сабе назло.

Якую прагне ён асвету
Развесці ў нас (пачом стакан?) —
Народ спазнаў, і ў храм прасветлы
Не ўвойдзе богам чыстаган!..

Народ спадману не паддасца,
Не ступіць ён у гіблы след.
У кожнай песні, кожнай казцы
Тут лёс яго і запавет!

Ён тут — спакон, ён — на радзіме,
Яму з'язджаць няма куды.
Ён сам заўжды і ў госці прыме,
І дасць прытулак ад бяды.

Народ — ён быў, і ёсць, і будзе!
Таму: спакойна, дзяцюкі!
Не згіне вера наша ў блудзе!
Яна нам светач — на вякі!

**Сяргей ПАНІЗНІК**

●

— На шыбеніцу!
— На касцёр!
— На кол!..
І дзе б ні зніштажалася істота, —
для гэтага у катаў быў д а з в о л,
яшчэ і асабістая ахвота.

— На Салаўкі!
— На Калыму!
— На смерць!..
І кат аж упіваецца у раны.
А гэта крывапіўцу трэба ўмець.
Умее, бо не будзе п а к а р а н ы.

— На мукі!
— На асмейванне!
— На злом!..
У катавальнях новыя прылады.
Але, а с у д ж а н а е, чакае зло
за страты
справядлівае адплаты.

19.X.1988.

**Перабудове — ідэі абнаўлення**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ**

# Правы ці ўступкі

СЁЛЕТНЯЯ падпісная кампанія — працверазенне лёгкаверных і апафеоз бюракратызму, хоць усё ў рэшце рэшт заканчваецца добра,—апроч іншага, выявіла адну акалічнасць, якая не залежыць ад вытворчых магутнасцей папяровай прамысловасці ад Міністэрства сувязі.

Нават не выявіла, дакладней сказаць—засведчыла, канстатавала. Бо існаванне галоснасці «маскоўскай» і «мінскай», «сталічнай» і «калужска-разанскай»—не сёлетняе адкрыццё. І не адкрыццё ўвогуле, а рэальнасць нашага жыцця.

**«Смеласць рэдактара і рэдакцыі перастае быць гераізмам, калі праўда і здаровы сэнс робяцца нормай грамадскага жыцця, — пішуць «Известия». — Падобна на тое, што мы пачынаем набываць гэтую норму. У цэнтры — смялей, больш рашуча. А вось «на месцах»... Шумныя падзеі дэмакратызацыі (у тым ліку і выступленні цэнтральнага друку) праносяцца над ускраінамі, як верхавы ўраган,—над галавой шуміць, а ўнізе спакойна. Прыклад першых газет краіны, якія адкрываюць адну за другой зоны маўчання, кліча за сабой—гэта безумоўна. Але... Там змагаюцца нібыта са з'явай, а тут—канкрэтныя людзі, пасады, тут усё пераплецена, як карані травы, даўнімі сувязямі, сімпатыямі ці антыпатыямі, тут іншым разам быццам бы і на стрэлачніка замахнуўся, а пакрыўдзіў начальніка вакзала...»**

«Як верхавы ўраган»... Завучаны ці не на памяць спіс лімітаваных газет і часопісаў цалкам складаўся з цэнтральных выданняў. Гэта натуральна настолькі, што не патрабуе тлумачэння. Відавочныя і выдаткі, якія нясе працэс фарміравання новай грамадскай свядомасці ў выніку штучнага стрымлівання дыялога чытача з перадавым друкам.

Разам з тым, у сітуацыі, якая склалася, нельга не заўважыць пэўнай фантасмагарычнасці. Уся наша неабсяжная краіна, ад Буга да Курыл, у адначассе выказвае жаданне чытаць дзвестры кнігі, пяць-сем газет і часопісаў. Прапанова нараджае... попыт, які не ў стане наталіць.

Трэба спадзявацца, што да вывучэння падпісных «катаклізмаў» падключыцца сур'ёзная навука, якая прааналізуе прыроду выбухаў чытацкай актыўнасці, прычыны папулярнасці адных і непапулярнасці другіх выданняў. Глыбокае даследаванне магло б абвергнуць ці пацвердзіць многія з нашых стэрэатыпаў, уяўленняў, меркаванняў.

Напрыклад, такую маю саматужную гіпотэзу—аб істотных парушэннях балансу паміж цэнтральным і мясцовым друкам. Думаецца, у гіганцкіх, якім няма роўных у свеце, тыражах групы маскоўскіх газет ёсць немалая доля патэнцыяльных тыражоў прэсы перыферыйнай. Зрэшты, не ў тыражах справа, хоць аб празмерных «пастаўках у саюзны фонд» чытацкай аўдыторыі я міжволі задумваюся кожны раз, калі назіраю, якую карэспандэнцыю дзяўчына «з тоўстай сумкай на рамні» спрытна рассоўвае ў паштовыя скрынкі нашага 107-кватэрнага дома...

На першы план, мяркую, выходзіць праблема «пераразмеркавання» галоснасці. Іншымі словамі гэта і завецца пашырэннем дэмакратызацыі, якая не так проста ўкараняецца ў наша жыццё, у тым ліку і ў практыку мясцовага друку.

ЧАМУ Ж досыць часта «над галавой шуміць, а ўнізе спакойна»? Прычын шмат, спынюся толькі на адной з іх, калі і не самай галоўнай, дык, напэўна ж, самай далікатнай. Доўгі час над гэтай тэмай і ўвогуле лунала вета, але галоснасць і тут пачынае парушаць усталяваныя рамкі.

**«Манапольнае права рашаць, што друкаваць, а што не, разносы рэдактарам за публікацыю «не тых» матэрыялаў, застаюцца пакуль нормай, —дзеліцца набалелым на старонках «Известий» журналіст з Клайпеды.—На перыферыі партыйныя органы стварылі тэорыю аб дзвюх катэгорыях галоснасці—для цэнтральнага друку і для правінцыйнага, чым ігнаруюць дакладныя ўстаноўкі важнейшых партыйных дакументаў. Нашы спасылкі на цэнтральную прэсу, няхай гэта нават «Правда», выклікаюць у лепшым выпадку іранічныя ўсмешкі».**

Выступленне калегі нагадала эпізод трохгадовай даўнасці. Доктар філасофіі, у тагачасныя службовыя абавязкі якога ўваходзіла апекавацца беларускай культурай, у тым ліку і нашай газетай, блаславіляючы супрацоўнікаў і членаў рэдкалегіі «ЛіМа» на дзейнасць ва ўмовах перабудовы, зрабіў, аднак, націск на тым, што заўсёды была і будзе галоснасць для ўсіх і галоснасць для інтымнага кола. Я не ўтрырую— цытую. І думаю: што самае галоўнае ў гэтай гісторыі? Тое, што доктар не на сто працэнтаў меў рацыю? Ці тое, што ён не на сто працэнтаў памыляўся?..

Усе мы былі сведкамі гарачай дыскусіі аб друку, якая разгарнулася на XIX Усесаюзнай партканферэнцыі. Дыскусія выразна акрэсліла працэсы, якія адбываюцца цяпер у грамадскай свядомасці, выявіла шырокі спектр інтарэсаў і пазіцый у дачыненні да галоснасці. У выніковых дакументах канферэнцыі адкрытасць, здольнасць да крытыкі і самакрытыкі пастаўлены ў непасрэдную залежнасць ад жыццяздольнасці і маральнага здароўя грамадства, неад'емным і натуральным прызнана права кожнага грамадзяніна на поўную і аб'ектыўную інфармацыю ва ўсіх сферах дзейнасці дзяржавы, права публічна выказвацца па любой сацыяльна значнай праблеме.

Але адзінагалоснае прыняцце рэзалюцыі «Аб галоснасці» яшчэ не азначае, што зніклі намеры (і, дарэчы, магчымасці) зрабіць прэсе «ўкарот». Рызыкую таксама выклікаць іранічныя ўсмешкі, і ўсё ж, спашлюся на «Правду»: аказваецца (цытую орган ЦК) «мала «дазволу на галоснасць» з Масквы, дзеля гэтага патрабуецца яшчэ і благаславенне сваёй першай асобы. Такім чынам, дэмакратыя дэмакратыяй, а асновы і нормы «апаратнага жыцця» ўсё яшчэ жывучыя».

У ленінскім «Праекце рэзалюцыі аб свабодзе друку» (лістапад 1917 г.) адзначалася: «Рабочы і сялянскі ўрад пад свабодай друку разумее... прадастаўленне кожнай групе гра-

(Заканчэнне на стар. 15).

# Пяць кішынёўскіх дыялогаў

**Беларусь і Малдавія... Рэспубліка блакітных азёраў і зялёных лясоў і край садоў і вінаградных лозаў... Між імі існуе даўняя культурная повязь.**

**Галоўная рэдакцыя літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання вядзе пастаянную рубрыку «У сям'і адзінай». Для здымкаў тэлеперадачы, прысвечанай беларуска-малдаўскім культурным сувязям, здымачная група вылятала ў Кішынёў. У яе складзе быў вядучы і аўтар перадачы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, паэт Пятрусь Макаль. Паміж ім і дзеячамі малдаўскай культуры адбылося пяць дыялогаў. Дыялогі прагучалі ў эфіры, аднак не лішне будзе ўзнавіць іх і на старонках «ЛіМа».**

## ДЫЯЛОГ ПЕРШЫ

**П. МАКАЛЬ. Гарады, як і людзі, маюць свой адметны твар. Кожны непаўторны, кожны своеасаблівы. Я не першы раз бываю ў Кішынёве, але кожная сустрэча з ім адкрывае мне новыя яго рысы. І хоць Кішынёў далёка па адлегласці ад Мінска, але скарачаюць гэту адлегласць не толькі рэактыўныя самалёты, але і шчырая праца людзей розных прафесій. Мне было прыемна бачыць у Кішынёве мінскія халадзільнікі, але і ў нас ёсць тое, што робяць на малдаўскай зямлі. Аднак самая вялікая каштоўнасць, што яднае нас,— гэта духоўныя каштоўнасці. Праўда, часцей за ўсё мы ведаем пра малдаўскія літаратурныя дасягненні з перакладаў на рускую мову. За гэта дзякуй Маскве. Але патрэбен прамы кантакт. Каб наша дружба, нашы адносіны былі сапраўды інтэрнацыянальнымі, каб яны спрыялі росквіту культуры Беларусі і Малдавіі, было б добра правесці аб'яднаны пісьменніцкі пленум, дзе б магла ўзнікнуць сур'ёзная гаворка пра далейшую актывізацыю нашых сувязей. Такія ж пленумы маглі б правесці іншыя творчыя саюзы. Гэта пайшло б толькі на карысць. Мы прыехалі не толькі для таго, каб успомніць, што зроблена намі ў культурным жыцці. Што ёсць, тое ёсць. Мне хочацца пагаварыць пра магчымасці, якія намі не выкарыстаны. А не выкарыстана інфармацыйнасць, на мой погляд. Пра поспехі малдаван мы даведваемся з «Литературной газеты», але яна не можа ўсяго ахапіць. Трэба, каб нашы інфармацыйныя органы знаёмілі нас з культурнымі падзеямі нашых народаў...**

Г. МАЛАРЧУК, публіцыст, уласны карэспандэнт «Литературной газеты» па Малдавіі. Нашы літаратурныя сувязі добрыя. У нас з вамі шмат агульнага болю. Гэта праблема паветра, вады, праблема зямлі, на якой зараз мы разам жывём. Вы даведаліся з друку, пра што турбуецца Іон Друцэ, мы — аб чым трывожыцца Ніл Гілевіч. Гэта нашы агульныя праблемы, таму што мы жывём у агульным доме.

**П. МАКАЛЬ. У нашым агульным доме адбыліся чарнобыльскія падзеі. Ці закранулі яны вас?**

Г. МАЛАРЧУК. Не так трагічна, як вашу Беларусь, але закранулі даволі адчувальна. Ведаеце, я не так даўно вярнуўся з Чарнобыльскай АЭС. Шчыра прызнаюся, што ў мяне застаўся не дужа ружовы настрой ад гэтай паездкі. Нягледзячы на занадта аптымістычныя выступленні некаторых нашых вучоных, чарнобыльская праблема будзе доўгія гады закранаць усіх нас... Вам зараз нялёгка, але і нам не соладка. Хоць мы і жывём на вінаграднай зямлі... У Чарнобылі я пачаў распытваць шафёра, які мяне вёз, а ён мне кажа: «Вы думаеце, у Малдавіі лепш, чым у нас? Ды мы ад вашай садавіны адмахваемся і рукамі і нагамі!..» Мы захімізавалі зямлю. Цяпер некаторыя вучоныя пачалі сцвярджаць, што ўздзеянне пестыцыдаў на жывы арганізм гэткае ж самае, як і СНІДа... Я глыбока перакананы, што трывога аб зямлі ў нас агульная. Паверце, непрадуманая меліярацыя вашага Палесся, гэтага унікальнага кутка Зямлі, гэтых «лёгкіх Еўропы», кранае мяне да глыбіні душы!

**П. МАКАЛЬ. Таму, я лічу, пісьменнікі не павінны адмоўчвацца, а заняць актыўную, наступальную пазіцыю.**

Г. МАЛАРЧУК. Нашы пісьменнікі ўжо ўключыліся ў такую барацьбу, але сілы застою вельмі нам перашкаджаюць. Мы ўпарта імкнёмся выйсці на чытача, але гэта, прызнаюся, нам не заўсёды ўдаецца. Барацьба ідзе за новы напрамак у мысленні... Ведаеце, ёсць такая птушачка канарэйка. Яна імгненна адчувае набліжэнне шкоднага газу ў шахце і сваімі паводзінамі папярэджвае шахцёраў аб раптоўнай бядзе. Пісьменнікі — сіла грамадства, якая адчувае народную бяду і падымае супраць яе свой голас...

**П. МАКАЛЬ. А як падымаюць свой голас пісьменнікі за праблемы нацыянальнай культуры? Дарэчы, якая з гэтых праблем у вас галоўная?**

Г. МАЛАРЧУК. У першую чаргу — праблема мовы! Яна ўласціва і вам. Вось, напрыклад, ідуць размовы пра тое, што малдаўская мова блізкая да румынскай. Кожнаму малдаваніну вядома ісціна. Дык не! Некаторыя таварышы ўпарта пераконваюць нас, што наша мова страшэнна блізкая да славянскай. І таму трэба нам карыстацца кірыліцай. Глупства! Нашай мове блізкі лацінскі алфавіт. І гэта даказана вучонымі. Дык чаму ж да іх думкі не прыслухоўваюцца? Малдаўскі народ у маральным стане не зробіцца горшы, калі будзе карыстацца сваім карэнным, блізкім яму алфавітам!.. Так як і беларускі народ толькі ўзбагаціцца, калі па-сапраўднаму верне сваю мову!

**П. МАКАЛЬ. Мы закранулі балючае пытанне — пытанне мовы. Як у вас з яе вывучэннем?**

Г. МАЛАРЧУК. У нас у Тыраспалі, былой сталіцы Малдаўскай аўтаномнай рэспублікі, няма ніводнай школы з нацыянальнай мовай... Хіба гэта нармальная з'ява?! У вас у рэспубліцы становішча, чуў, яшчэ горшае...

Ваш прыезд у Кішынёў — добры пачатак. Цалкам згодзен з вамі, нам трэба выходзіць на прамую сувязь. Каб ведаць, пра што баліць народная душа... Будзе ўзаемна карысна, калі нас будзе звязваць разуменне агульных недаробак. Давайце закасваць рукавы і разам брацца за працу.

## ДЫЯЛОГ ДРУГІ

**П. МАКАЛЬ. Я рад сустрэчы з вамі, з выдатным прадстаўніком малдаўскай літаратуры Дзмітрыем Лявонцьевічам Маткоўскім.**

**Цяпер прыйшоў час публіцыстыкі, яна апярэджвае аповесці і раманы. Дзмітрый Лявонцьевіч, якія праблемы ўздымаюць публіцысты ў часопісе «Ністру», які вы ўзначальваеце?**

Д. МАТКОЎСКІ. Для стварэння новых мастацкіх твораў патрэбен час. Таму на пярэдні край выйшла публіцыстыка. Праблемы мовы і нацыянальнай гісторыі без публіцыстыкі часопіс не падыме. Але друкаваць матэрыялы пра гэтыя праблемы цяжка.

**П. МАКАЛЬ. Дае адчуваць сябе механізм тармажэння?**

Д. МАТКОЎСКІ. Перашкаджаюць чыноўнікі ад літаратуры. Я ўсяго некалькі месяцаў як галоўны рэдактар «Ністру». Наш часопіс быў самы нечытаемы ў Саюзе, тыраж яго 3500 экземпляраў. Ён выдаецца на малдаўскай мове. Галоўная мая задача: падняць тыраж. Часопіс павінен адлюстроўваць праблемы сённяшняга дня. Але вострыя матэрыялы праходзяць з вялікімі цяжкасцямі. Чацвёрты нумар часопіса я доўга не мог падпісаць у друк. Справа дайшла да першага сакратара ЦК партыі Малдавіі. Разумееце, некаторых натхніў артыкул Н. Андрэевай у «Советской России», яны прынялі яго як кіраўніцтва да дзеяння... Мяне рэдактарам абралі пісьменнікі, і я імкнуся іх давер апраўдаць. А пісьменнікаў зараз вельмі трывожаць нацыянальныя праблемы. Пра іх яшчэ не так даўно гаварылі, што іх не існуе. Але яны ёсць.

**П. МАКАЛЬ. Пра гэта сведчаць хоць бы і падзеі ў Нагорным Карабаху. Ды не толькі там. Дзмітрый Лявонцьевіч, вы закранулі некаторыя праблемы, якія хвалююць малдаўскіх пісьменнікаў. Яны блізкія і зразумелыя нам. А цяпер я хачу вярнуцца да пытання аб нашых сувязях. Скажыце, што, на ваш погляд, можна зрабіць, каб нашы адносіны былі плённыя?**

Д. МАТКОЎСКІ. Мяркую, што трэба пачынаць з інфармацыі. Разумееце, усё, што ёсць у вас лепшае, мы не заўсёды ведаем. Таму я хацеў бы абменьвацца нумарамі з вашым часопісам «Полымя».

**П. МАКАЛЬ. Добрае пажаданне. Вы з Сяргеем Законнікавым, галоўным рэдактарам «Полымя», знаёмы?**

Д. МАТКОЎСКІ. Трошкі знаёмы. Я з ім сам звяжуся, але папрашу вас таксама перадаць маю просьбу.

**П. МАКАЛЬ. Абавязкова. Я думаю, што нам трэба абменьвацца не толькі часопісамі, але і літаратурнымі штотыднёвікамі.**

Д. МАТКОЎСКІ. Безумоўна. Ад гэтага будзе ўзаемная культурная карысць.

## ДЫЯЛОГ ТРЭЦІ

**П. МАКАЛЬ. Вы, Мікалай Ісакавіч, галоўны мастак тэатра «Лучафэрул». Па-беларуску гэта будзе гучаць прыкладна так: «Ранішняя зорка»... Ваш тэатр, я ведаю, вельмі любіць моладзь. Можа, папулярнасць ідзе ад таго, што вы свой рэпертуар смела ўзбагачаеце драматургічнымі творамі з іншых братніх рэспублік? Ці не маглі б вы расказаць пра гэта больш падрабязна.**

М. АНДРАНАЦЫП. Я магу расказаць аб кантактах нашага тэатра з беларускімі калегамі. Гэта для мяне блізкая і дарагая тэма. З'явай у нашым тэатры была ў свой час п'еса Андрэя Макаёнка «Святая прастата». Прынята яна была гледачом цудоўна. Восем гадоў таму назад мы ўзяліся за пастаноўку вашай, Пётр Міхайлавіч, п'есы «На ўсіх адна бяда». Ваш спектакль ішоў у нашым тэатры сем гадоў. Пагадзіцеся, што для спектакля гэта не малы тэрмін. Ставіў вашу п'есу Рыгор Іванавіч Баравік. Будынак тэатра на той час рамантавалі, ён быў у рыштаваннях. Вось у такіх умовах мы рыхтавалі ваш спектакль. Я працаваў над ім як мастак.

**П. МАКАЛЬ. А каго яшчэ вы нагледзелі з беларускіх аўтараў?**

М. АНДРАНАЦЫП. Не так даўно я вёў перагаворы з рэжысёрам вашага тэатра імя Янкі Купалы Раеўскім. Прасіў паставіць у нас «Радавых» Аляксея Дударава. Нібыта дамовіліся, і цяпер я спадзяюся, што паставім гэты спектакль у сябе.

**П. МАКАЛЬ. Калі я прыязджаў да вас на прэм'еру свайго спектакля разам з прафесарам Анатолем Сабалеўскім, вы, Мікола, былі яшчэ на пасадзе дырэктара тэатра. Сумяшчалі пасады галоўнага мастака і дырэктара. З'ява унікальная для тэатра. Даруйце, а чаму цяпер вы не дырэктар?**

М. АНДРАНАЦЫЙ. Я пяць гадоў быў дырэктарам. Але потым адчуў, што нельга раздвойвацца. Прафесія мастака раўнівая, як жанчына, яна не церпіць палавінчатасці.

**П. МАКАЛЬ. Вы зараз падышлі да пытання аб ролі мастака ў тэатры. Як вам цяпер працуецца і як ідуць справы з вашай нацыянальнай драматургіяй?**

М. АНДРАНАЦЫП. Увогуле становішча незайздроснае, але ёсць рэчы, якія ўсяляюць надзеі.

**П. МАКАЛЬ. Вы маеце на ўвазе Іона Друцэ?**

М. АНДРАНАЦЫП. Я маю на ўвазе спектаклі паводле яго п'ес «Рудая кабыла са званочкамі» і «Хорыя». Іх Іон Друцэ напісаў 15 гадоў назад. Толькі цяпер у нас дазволілі гэтыя п'есы ставіць.

**П. МАКАЛЬ. А чаму ж не раней?**

М. АНДРАНАЦЫЙ. Не дазвалялі. У план ставілі, а выхад — нулявы. Тое ж самае з нашым таленавітым драматургам Аўрэліем Бусуйокам. Дваццаць гадоў назад ён напісаў п'есу «Першы і апошні». Толькі цяпер атрымалі дазвол... Я з захапленнем працую цяпер над гэтай п'есай!

## ДЫЯЛОГ ЧАЦВЁРТЫ

**П. МАКАЛЬ. Я вельмі рады вітаць вас, даўняга сябра Беларусі, мастака-акадэміка, народнага мастака СССР Ілью Трафімавіча Багдэску...**

І. БАГДЭСКУ. Я з вялікай цікавасцю сачу за дзейнасцю беларускіх мастакоў, з многімі з іх знаёмы асабіста. Добрыя сустрэчы з вашымі мастакамі ў мяне некалі адбываліся ў Маскве, у Манежы, дзе экспанавалася выстаўка пад назвай «Беларусь — Малдавія». Некалі існаваў прынцып арганізацыі выставак па рэспубліках. Гэта было вельмі карысна для мастакоў, спрыяла духу творчага спаборніцтва. Але гэта традыцыя па незразумелых прычынах чамусьці знікла.

Калі ж гаварыць пра беларускіх мастакоў, то я хачу ў першую чаргу назваць Гаўрылу Вашчанку, з якім мяне звязвае шматгадовая дружба. Яго творчы шлях пачынаўся ў Малдавіі, ён выкладаў, апрача ўсяго, у Кішынёўскім мастацкім вучылішчы. Я ведаю Савіцкага, Паплаўскага. Асабліва ўважліва я назіраю за работамі вашых кніжных графікаў. Яны ярка ўзышлі на ўсесаюзным небасхіле.

Што ж датычыць праблем, дык іх у нас шмат. Возьмем праблему творчай моладзі. Мяне не радуе, што ў моладзі пачаўся працэс духоўнага разняволення. Ідзе, напрыклад, цікавы працэс пошуку выяўленчых форм. Я гэта вітаю. Аднак у пошуках прыгожай формы нельга забывацца аб праўдзе жыцця. Без гэтай жыццёвай праўды не будзе сапраўднага мастацтва. Творчасць павінна адлюстроўваць праўду свайго часу. Моладзь часам пра гэта забывае. Але што радуе: моладзь ідзець у авангардзе нацыянальнай культуры.

**П. МАКАЛЬ. Якія ж тут узнікаюць праблемы?**

І. БАГДЭСКУ. У нас, напрыклад, да 1984 года не было свайго мастацкага інстытута. Цяпер ужо чацвёрты год мы вучым у ім здольную моладзь. Шлях выхавання ідзе не толькі праз пазнанне сусветнай культуры, але і сваіх нацыянальных каранёў. Ды вось, бывае, выкладанне ў мастацкім інстытуце ідзе толькі на рускай мове. Так нельга. Мова — гэта душа народа. А без душы ў творца не можа быць сапраўднага мастацтва...

## ДЫЯЛОГ ПЯТЫ

**П. МАКАЛЬ. Леаніда Іванаўна, я хачу звярнуцца да вас, паэтэсы, прадстаўніка малодшага пакалення малдаўскіх літаратараў, з такім пытаннем: што вас зараз найбольш трывожыць? І што радуе?**

Л. ЛАРЫ. Што радуе мяне? Што ёсць шмат людзей, якія арыгінальна мысляць і сваёй творчасцю намагаюцца абнавіць наша жыццё. Сярод іх пісьменнік Іон Друцэ, Георгій Маларчук, Георгій Віеру, Дзмітрый Маткоўскі і іншыя. За імі дружна цягнецца наша таленавітая моладзь. Але, на вялікі жаль, не ўсе нашы пісьменнікі нясуць у сваёй душы глыбокую адказнасць за свой час, адказнасць за грамадскае жыццё, адказнасць за сваю мову. Калі мова звужвае сферу ўжывання, яна гіне. Мне вельмі сумна вам гэта казаць, але чыстую малдаўскую мову пачуеш толькі ў Саюзе пісьменнікаў. Гэта вельмі балюча. Нацыянальнай мовы няма ў дзіцячых садах і школах, няма ў вышэйшых навучальных установах. У нас было рашэнне партыі наконт мовы, але мінуў ужо год, ды нічога так і не зроблена. У нас нават назвы гарадкоў і вёсак на дарожных указальніках напісаны толькі па-руску. Мяне вельмі радуе, што абуджаецца нацыянальная самасвядомасць, асабліва ў моладзі.

**П. МАКАЛЬ. Леаніда, вы працуеце літкансультантам у Саюзе пісьменнікаў, таму чалавек дасведчаны. Скажыце, якія ў вас літаратурныя сувязі з братнімі рэспублікамі?**

Л. ЛАРЫ. Мы многа перакладаем з братніх літаратур. У тым ліку і беларускую прозу і паэзію...

**П. МАКАЛЬ. Калі я збіраўся ў Кішынёў, то даведаўся, што наша выдавецтва «Мастацкая літаратура» рыхтуе да выдання анталогію малдаўскай паэзіі ў перакладзе беларускіх паэтаў.**

Л. ЛАРЫ. Дзякуй. Нам, відаць, таксама трэба падумаць наконт гэтага.

**П. МАКАЛЬ. Леаніда, зараз шмат гаворыцца аб экалогіі, аб стане прыроднага асяроддзя. А што вы думаеце аб стане душы, аб экалогіі чалавечай душы?**

Л. ЛАРЫ. У старажытнасці паэт адказваў за чалавечую душу, ён адкрываў яе. Цяпер, як ніколі, ён у адказе за гэту душу. Вызваляць яе ад застойнага палону, уліваць у яе чысціню і свежасць — такая наша з вамі агульная, але не дужа лёгкая задача. Паменей нам трэба думаць аб ганаровых званнях і ўзнагародах, пабольш думаць аб лёсе свайго народа...

**Дыялогі запісаў Алесь ШЛЕГ.**

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## ДА ЮБІЛЕЮ...

**24 кастрычніка ў сталіцы рэспублікі пачаліся Дні паказу дасягненняў народнай творчасці абласцей, прысвечаныя 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі, якія прадоўжацца да 25 снежня сёлетняга года. Першай творчую перадюбілейную справаздачу трымае Брэстчына. Мінчане і госці горада-героя Мінска ў гэтыя дні ў Палацы культуры Белсаўпрофа могуць наведаць выстаўку лепшых вырабаў майстроў народных промыслаў Надбужжа «Палескія ўзоры», пазнаёміцца з фотаэкспазіцыяй «Радзіме — наша праца і натхненне».**

**Ужо адбыліся і праходзяць у палацах і дамах культуры г. Мінска, у прамысловых калектывах, перад воінамі Савецкай Арміі выступленні вядомых самадзейных калектываў краю — «Радасць», «Лялькі», «Пеўнікі», «Палескія зоры», «Завіруха» і іншых.**

**Учора ж у Палацы культуры Белсаўпрофа прайшоў вялікі святочны канцэрт «Спявай, маё Палессе».**

**Эстафету ад брэстаўчан прымуць віцябчане, якія з 14 па 20 лістапада будуць трымаць творчую справаздачу ў Палацы культуры Мінскага трактарнага завода.**

**У Мінску, на доме № 30 па Ленінскім праспекце, у якім жыў выдатны акцёр-купалавец, народны артыст СССР Л. Рахленка, адкрыта мемарыяльная дошка. На мітынгу з нагоды гэтай падзеі выступілі начальнік упраўлення культуры Мінскага гарвыканкома А. Літвіновіч, намеснік начальніка ўпраўлення тэатраў і музычных устаноў Міністэрства культуры БССР Л. Пашкун, народныя артысткі БССР М. Захарэвіч і З. Браварская, дырэктар купалаўскага тэатра І. Вашкевіч.**

## ГРАМАДСКАЯ КАМІСІЯ ДЗЕЙНІЧАЕ

**Як паведамлялася ўжо, Мінскі гарвыканком стварыў грамадскую камісію па забеспячэнні захаванасці аб'ектаў гістарычнага цэнтра Мінска пры будаўніцтве і эксплуатацыі другой лініі метрапалітэна.**

**Старшынёй камісіі, у якую ўваходзяць кампетэнтныя спецыялісты з розных навуковых і культурных устаноў, прадстаўнікі грамадскасці горада, быў выбраны доктар гістарычных навук У. Палуян.**

**Камісія прыйшла да высновы, што ў выніку праходкі лініі метро на тэрыторыі Верхняга горада помніку архітэктуры рэспубліканскага значэння, былому Базіліянскаму кляштару (пл. Свабоды, 23) нанесены значны ўрон, і будынак знаходзіцца ў аварыйным стане. Пад пагрозай разбурэння апынуліся і іншыя помнікі Верхняга горада. Каб прадухіліць пагрозу, камісія звярнулася ў Савет Міністраў БССР і Мінгарвыканком з прапановай спыніць будаўніцтва метро на тэрыторыі гістарычнага цэнтра Мінска да правядзення экспертызы праекта і ўзгаднення яго з Міністэрствам культуры СССР.**

**Міністэрства культуры СССР неаднойчы накіроўвала тэлеграмы на адрас Мінгарвыканкома і Савета Міністраў БССР аб неабходнасці спынення будаўніцтва метро ў адпаведнасці з законам «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры». 19 кастрычніка паступіла новая тэлеграма саюзнага міністэрства ў Савет Міністраў рэспублікі аб спыненні ўсіх работ па будаўніцтву метро на тэрыторыі Верхняга горада.**

**Нягледзячы на гэта, будаўніцтва станцыі «Няміга» ідзе поўным ходам. Грамадская камісія прыняла рашэнне звярнуцца ў пракуратуру рэспублікі з просьбай прыцягнуць вінаватых у парушэнні заканадаўства па ахове помнікаў гісторыі і культуры да адказнасці.**

**Застаецца дадаць, што грамадская камісія працуе ў памяшканні рэспубліканскага савета Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры кожны панядзелак, пачынаючы з 17 гадзін.**

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

# Пра яшчэ адзін дэфіцыт

**Пасля прачытання прыпавесці У. Нhistorically Някляева «Вежа»**

СЁННЯШНЯМУ літаратурнаму працэсу ўласціва паскоранае размыванне жанравых межаў. Аповесці, у якіх назіраецца толькі адна апавядальная плынь, называюцца раманамі, доўгія вершы — паэмамі, тры незарыфмаваныя радкі, якім з розных прычын цяжка было вырасці ў чатырохрадковую страфу, імянуюцца хоку і г д.

Іншы раз пісьменнікі, усвядоміўшы жанравую няпэўнасць свайго твора, успрымаюць гэта як непазбежнае: «...мне нічога іншага не заставалася, як напісаць над запісам Еха **а п о в е с ц ь**, хоць, паўтаруся, ўсё, што Вы, шаноўны чытач, прачытаеце ніжэй, ніякая не аповесць (!) і нават не фантастыка» (В. Гігевіч, «Полымя», 1988, № 8).

Ці не адбываецца такім чынам своеасаблівая жанравая канвергенцыя — паступовае ўтварэнне нейкай універсальнай формы выказвання?

Магчыма.

Вось і Уладзімір Някляеў, мусіць, у пошуку той жа формы сваю навелу «Вежа» («Полымя», 1988, № 6) назваў не навелай, а фантастычна-дакументальнай (!) прыпавесцю. Ён свядома палітызаваў сваю прыпавесць, памятаючы, што ў паняцці «канвергенцыя» акрамя біялагічнага ёсць і палітычны сэнс, г. зн. — ідэя збліжэння розных грамадскіх сістэм. Упершыню ў беларускай літаратуры, няхай у карыкатурна-гумарыстычным асвятленні, але ўсё ж мы ўбачылі нечаканую ідылію — калгасны старшыня размаўляе па тэлефоне з самім прэзідэнтам Злучаных Штатаў, а мільярдэр Фрэнк Морган запрашае нашага селяніна на ўрачыстую вячэру.

Уражанне выключнае, бо яшчэ ж нядаўна нас вучылі, што ідэя такога збліжэння шкодная, і ва ўсіх падручніках тэрміны палітычнага плюралізму і мірнага ідэалагічнага суіснавання браліся ў здзеклівыя двухкоссі. Дзякуй богу, што тая вучоба патроху забываецца, а літаратура дэмакратычна ўзбагачаецца фантастычна-дакументальнымі **н а в е л а м і**.

Насуперак У. Някляеву ягоную «Вежу» буду называць не прыпавесцю, а навелаю, хоць бы таму, што ў ёй усяго «адно незвычайнае здарэнне» (Гётэ), зусім няма прытчавай павучальнасці, і прачытваецца яна імгненна.

Ужо пасля першага абзаца яе не адкладзеш назаўтра і, чым бы ні быў заняты, абавязкова дачытаеш у гэты ж дзень. Прычынай таму не толькі чыста навелістычная «кароткаметражнасць» (нейкі дзесятак часопісных старонак), а сэнсавая паўната амаль кожнай фразы, памайстэрску ўзмоцненая то лёгкай іроніяй, а то непрыхаванай сатырай...

«Пан Цырлюкевіч быў тым панам, які ў XIX стагоддзі меў у Карунах глобус, і, калі каруньцы пачалі капаць калодзеж скрозь усю Зямлю, пан Цырлюкевіч праткнуў свой глобус сталёвай спіцай з боку Карун — і аказалася, што другі канец спіцы вытыркнуўся ў Ціхім акіяне».

У каго ж вучыўся Някляеў-празаік гэтай парадаксальна-іранічнай фразе?

Думаецца, што Някляеў-празаік вучыўся перш за ўсё ў Някляева-паэта, аўтара іранічных раздзелаў «Натхненне» і «Пабочная тэма» з паэмы «Наскрозь», а таксама верша «Вадэвіль у двух актах». Вучыўся, як кажуць, не па сваім жаданні, а толькі таму, што ў прозе беларускай смех — госць рэдкі.

У паэзіі і драматургіі існуюць ужо цэлыя традыцыі нацыянальнай сатыры і гумару, пачатак і развіццё якіх вызначаюць вядомыя ўсім «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе», «Пінская шляхта», «Залёты», «Паўлінка», «Прымакі», «Пісаравы імяніны», «Хто смяецца апошнім», «Мілы чалавек», «Пагарэльцы», «Сказ пра Лысую гару», «Смаргонская акадэмія», доўгі шэраг баек, вершаваных фельетонаў, дасціпных шаржаў, эпіграм самых розных аўтараў.

Але чаму ж нестае ў прозе «вясёлых, жыццярадасных кніг» (А. Мрый)?

Прычына, мусіць, у той кансерватыўнай, амаль фатальнай настроенасці нашай прозы толькі на «сур'ёзнае». Гэта шкодна паўплывала і на тэматычнае развіццё, звёўшы яго, увогуле, да кніг пра вёску і кніг пра вайну. Нават гістарычная тэма доўгі час была другараднай...

Настроенасць беларускай прозы толькі на сур'ёзнае і аб'ектыўна праграмавалася. Кажучы даходліва, смех, дасціпная іронія і вольная ад апекі сатыра не надта ўхваляліся. Пра гэта слушна гаворыць ва ўступе да паэмы «Сказ пра Лысую гару» Дзмітрый Бугаёў, тлумачачы, чаму паэма не была надрукавана адразу пасля яе напісання.

Цярністы шлях да чытача быў наканаваны і алегарычнай прозе Ядвігіна Ш. А лепшая нацыянальная сатыра з даваенных гадоў, як паказаў трагічны лёс Андрэя Мрыя, аўтара «Запісак Самсона Самасуя», увогуле падлягала на доўгія дзесяцігоддзі забароне і замоўчванню. Самы час тут успомніць і апавяданне Максіма Гарэцкага «Апостал», што было надрукавана ў Вільні ў «Беларускіх ведамасьцях» яшчэ ў 1921 годзе. Дзякуючы пошуку крытыка Алеся Бяляцкага, гэты цудоўны сатырычны твор толькі цяпер, магчыма, будзе ўключаны ў актыўны ўжытак нашай літаратуры. І да вялікага свайго дзіва мы даведаліся, што свядомы беларускі «апостал», ці па яшчэ адным вызначэнні М. Гарэцкага «гарачы камуніста» таварыш Курапа тыпалагічна папярэднічае з'яўленню рускіх «гарачых камуністаў» — Сцяпану Капёнкіну з платонаўскага «Чэвенгура» і Макару Нагульнаву з вядомай усім «Узнятай цаліны».

Апашленне сацыялістычных ідэй,ператварэнне «гарачымі камуністамі» марксісцкай навукі ў сацыяльна-палітычную карыкатуру было заўважана і, вядома ж, высмеяна беларускай літаратурай не пазней за рускую, а можа, нават і раней, калі мець на ўвазе забароненае апавяданне М. Гарэцкага «Апостал». Але ідэолагам казарменнай эпохі было заўгодна, каб беларусы не мелі прозы, у аснову якой закладзена філасофія смеху, смеху мудрага і сацыяльна - жорсткага. Так ён паволі і вырастаў у нашым мастацтве — дэфіцыт «празаічнага» смеху.

Пэўна ж, ад незадаволенасці гэтым паэт Някляеў ператварыўся ў празаіка і напісаў «Вежу».

І паэт Рыгор Семашкевіч у сярэдзіне 70-ых, мяркую, што ад гэтай самай незадаволенасці таксама ўзяўся за пяро празаіка і здзівіў радавых чытачоў (а нерадавых нават напалохаў) сваёй цудоўнай аповесцю «Бацька ў калаўроце».

Я не збіраюся праводзіць прынцыповай паралелі паміж нядаўняй навелай Някляева і аповесцю Семашкевіча, надрукаванай у 1975 г. Творы даволі розныя, таму што рознае ў іх «паходжанне» смеху. Смех Семашкевіча — гэта смех сумнай душы, якая здолела ўзвысіцца над усім непатрэбным у жыцці і ў момант найбольшага свайго ўзвышэння спазнала найглыбокі смутак і, можа, нават адзіноту. Смех Някляева мае раблезіянскае адценне, ён нібыта вынікае з самога жадання шчыра пасмяяцца.

Семашкевіч у сваёй прозе застаўся паэтам — ён сапраўды толькі ўзяўся за пяро празаіка, пакідаючы за сабой права чыста паэтычнага канструявання фразы: дамачка — цэлы парфумны магазін на абцасіках; белая, як завіруха, буфетчыца; падлога гула, пакуль ён няўклюдна ўставаў... і г. д.

Някляеў жа менавіта **п е р а т в а р ы ў с я** ў празаіка. У любой ягонай фразе перш за ўсё навідавоку элемент празаічны, падкрэслены свядома ўжытым прыёмам белетрызаванай журналістыкі.

І «анкетныя» партрэты галоўных герояў таксама розныя. Семашкевічу Зміцер Апанасавіч які ні ёсць, але ўсё ж навуковец, «інтэлігент», а някляеўскі Ютка Казубоўскі — звычайны селянін. І ўсё ж паміж аповесцю «Бацька ў калаўроце» і навелай «Вежа» існуе трывалая ўнутраная сувязь.

Дык ці толькі незадаволенасцю абодвух пісьменнікаў, выкліканай дэфіцытам «вясёлых, жыццярадасных кніг», можна растлумачыць гэтую сувязь?

Вядома ж, не.

Яна адчуваецца перш за ўсё ва ўнутранай плыні пісьма, у непрадузятым, свабодным стылявыяўленні, якое ў аднолькава высокай ступені характэрна і аповесці Семашкевіча, і навеле Някляева.

Творы гэтыя пачынаюцца аднолькава абсурдна — Ютка Казубоўскі будуе ў сваім гародзе вежу, каб пасля ляжаць на самым яе версе і дыхаць горным паветрам, а Зміцер Апанасавіч робіць запісы пра свае аспіранцкія пакуты не ва ўласным дзённіку, а ў кнізе водгукаў і прапаноў у булачнай.

Трэба сказаць, што любая ступень абсурду пакуль што ўспрымаецца ў нас як замах на непарушна-нацыянальныя традыцыі. Любы алагізм лічыцца яблыкам з чужога саду. У прыватнай гутарцы можна пачуць і абагулена-пагардлівую ацэнку — гэта ўсё, маўляў, не беларускае. Але як бы там ні было, заўсёды трэба памятаць, што з'яўленне **с в а й г о** сутнаснага без уплыву сутнаснага **ч у ж о г а** (няхай у той жа абсурдысцкай форме) немагчымае...

Дык вось, усё праз тую ж запраграмаваную настроенасць, штучна ўтвораную «сур'ёзнасць», творам Семашкевіча і Някляева не папярэднічала традыцыя празаічнага смеху. Як, дарэчы, і вясёлым аповесцям В. Дубінкі, камічным апавяданням А. Дударава, а таксама непадробнаму гумару напаўзабытай прозы А. Наўроцкага і малаацэненай творчасці М. Клебановіча. А што ж папярэднічала? Рэдкія творы-адзінкі. Як, напрыклад, вельмі дасціпнае і — з пункту гледжання крытыка Анатоля Сідарэвіча — пасапраўднаму вясёлае апавяданне Язэпа Ядлоўца «Адзінаццатая запаведзь» («Полымя», 1964, № 8). Галоўны герой гэтага апавядання — настаўнік-недарэка Самастаян Спірыдонавіч Мяшэчкін—у асноўным прадвызначае вобраз Зміцера Апанасавіча, асабліва такія ягоныя рысы, як псеўдавучонасць, нехлямяжасць і проста чалавечая прыдуркаватасць. Але гэта, паўтаруся, толькі адно сатырычнае апавяданне, а не цэлая літаратура, чый вопыт мог бы з вялікай карысцю засвоіць той жа Семашкевіч. Хаця і не выключана, што апавяданне Я. Ядлоўца ён у свой час прачытаў і вобраз Самастаяна Мяшэчкіна дапамог яму больш пэўна рэалізаваць свае назіранні пры стварэнні партрэта «паважанага» Зміцера Апанасавіча...

Трэба не забываць, што мастацтва смеху — вялікае мастацтва. Яно, да прыкладу, робіць **з н а ч н а й** новую рускую прозу (Т. Талстая, Я. Папоў, В. П'ецух)...

Вось апавяданне Т. Талстой «Сомнамбула в тумане» («Новый мир», 1988, № 7). Яно не мае жанравага вызначэння накшталт фантастычна-дакументальнай прыпавесці, але блізкае да някляеўскай «Вежы» менавіта формай свабоднага стылявыяўлення — тут частыя літаратурныя алюзіі, і ўменне парадыраваць, і сацыяльна-афарбаваны сарказм, і тая ж лаканічная парадаксальнасць фразы.

Нельга прыняць у Т. Талстой хіба яе аўтарскага ўзвышэння над героем. Бо ўзвышаецца яна не дзеля таго, каб пашкадаваць, суцешыць чалавека, а толькі дзеля аднаго халоднага анатамічнага пазнання.

Някляеў пазбягае голага анатаміравання, ён у дачыненні да ўсіх сваіх герояў, нават зусім эпізадычных персанажаў (успомнім тую ж пакутную Броню Карунскую), захоўвае цеплыню і разуменне. Да Юткі Казубоўскага — таксама.

Ютка — дзівак, з тых казачных дзівакоў, без якіх жыццё ператварылася б у дэмаграфічную пустку. Ён — чалавек без комплексаў, рамантык, а што гэта такое — бедным Самастаяну Спірыдонавічу і Зміцеру Апанасавічу не дадзена зведаць.

Больш дакладнае псіхалагічнае вызначэнне Юткаваму характару даў сам аўтар, толькі не ў гэтай навеле, а ў адным з вершаў, дзе сказана пра людзей, якія:

**...зведаўшы працу зямлі,**
**Успомнілі прагу нябёсаў.**

Дык вось Ютка таксама, не ўнікаючы працы, успомніў прагу нябёсаў і пачаў «будаваць вежу да неба».

Наіўна ўспрымаць Юткава будаўніцтва ў літаральным сэнсе, а тым больш папракаць аўтара ў псіхалагічнай неадпаведнасці — маўляў, селяніна, г. зн. чалавека практычнага, прымусіў займацца абы-якой работай. Навела ўсё ж фантастычная і алегорыя ў ёй, калі так можна сказаць, навідавоку.

Ствараючы нязвыклае, чалавек тым самым адстойвае сваю самастойнасць. Урэшце, будаўніцтва вежы — гэта толькі мастацкі прыём. Інакш кажучы, Ютка не яе будуе, а **т о е** нязвычнае, што яму хочацца рабіць, у чым бачыць ён няхай маленькае, але вельмі неабходнае шчасце.

Юткава душа прагне такой работы, бо стамілася ад работы прымусовай, той работы, што кожны дзень чакае за межамі роднага двара. Дарэчы, цікава заўважыць — Ютка ажно на тры месяцы захварэў. І гэта не выпадкова. Здароваму не далі б узвесці на сваіх сотках нейкую там вежу. Ужо на другі дзень, можна ўявіць, той жа старшыня Антон Сыцюк гнаў

**(Заканчэнне на стар. 6).**

Дзмітрый КАВАЛЁЎ

## САМ-НАСАМ

Ільдзінак звон крыштальнаму сугучны,
Вясновы дзень, бы ў залатым дыму...
Іду сабе і размаўляю гучна.
І ўсё, што ў сэрцы, гавару яму.
— Ільіч, — я гавару яму, — мой родны,
Аб дробным я цябе б не папрасіў:
Мне наверстаць вунь колькі неабходна,
Ды надта мала часу ёсць і сіл.
Ну а ў цябе сто жыццяў за плячыма,
За нас, за наш народ у барацьбе
Было і кулям нават немагчыма
Ні павярнуць, ні затрымаць цябе.
І я прашу. цябе, каб дапамог мне.
Мы раімся з табой і ў нашы дні.
Вунь ярка між кляноў чыесьці вокны
Падміргваюць нябеснай вышыні.
Там, знаю, хтосьці не засне ў турботах...
Ці мала іх, бяссоннікаў такіх,
Каму, нібы натхненне, іх работа,
І дарагі, як шчасце, кожны міг.
Як многа нас, як многа дум на свеце...
Бяссонны подзвіг зноў шукае шлях.
І ўсім на свеце твае слова свеціць,
Хто пошук не спыняе па начах.
Ну а ў цябе сто жыццяў за плячыма.
За нас ты, за народ аддаў сябе...
На ўсё, што нам адолець немагчыма,
Адказы мы шукаем у цябе.
І не злічыць тых вокан на планеце,
Дзе ноч святло гарыць, як у маім.
Сам-насам ты з усімі на ўсім свеце,
А кожнаму здаецца — толькі з ім.
Над гаем свеціць серп блакітнаваты.
Блішчыць, лядком пазвоньваючы, гаць.
І так пад месяцам бялеюць хаты,
Што па зямлі ступаць мне ды ступаць.
Я чую, як гракі спакой гартаюць,
І жураўлёў прылётных чараду...
І што ўпусціў,
Я ўсё-ткі наверстаю,
Пакольні разам я з табой іду.

Пераклаў з рускай
Мікола ЯНЧАНКА.

# Пра яшчэ адзін дэфіцыт

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

бы Ютку паперадзе свайго матацыкла на калгасны пляц.

Алегорыя навелы мае глыбокі сацыяльны падтэкст. Ён выяўляецца апасродкавана і цалкам разлічаны на так званую чытацкую кемлівасць. Прасочым, як гэта робіцца... Вось Хведар Былінскі даведваецца, што Ютка намерыўся рабіць вежу, і зусім не здзіўляецца, толькі прамаўляе: «Ну, памагай бог».

Аўтар не тлумачыць — чаму Хведар не здзіўляецца. Толькі скупа падае пра яго самую неабходную інфармацыю — Хведар Былінскі працуе на ферме даяром. Гэта значыць, што ён — самы звычайны калгаснік, які за свой век з рознымі цудамі сутыкаўся. Гэта яму абяцалі рай пры жыцці — камунізм праз 20 год; гэта яго падбадзёрвалі тым, што неўзабаве Амерыка будзе ў савецкім малацэ тануць. Ды ці мала яшчэ што. Звык да ўсяго чалавек, таму нейкая там вежа, якую Ютка задумаў, — ці вартая здзіўлення?

Навела — не раман, у ёй не дасі хранікальнага развіцця характару. Таму Някляеў, разлічваючы на грамадскую дасведчанасць чытача, на ягоную, як ужо гаварылася, кемлівасць, не памыляецца, калі толькі эскізна карыстаецца сацыяльнай падтэкстоўкай. Усе героі «Вежы» надзелены ёю — і настаўніца Хрысціна Сымонаўна (дарэчы, і ў яе анёльскім характары ёсць колькі рысачак, вельмі роднасных Самастаяну Спірыдонавічу), і старшыня калгаса Андрон Сыцюк, і нават амерыканскі мільярдэр нашай крыві Фрэнк Морган з усімі сваімі гасцямі ад генерал-пракурора Самшытавых астравоў да магістра тайнай масонскай ложы з Сіцыліі.

А ўзначальвае гэты пералік вядома хто — Ютка Казубоўскі. Кажучы мовай тэле- і радыёкаментатараў, чалавек ініцыятывы, якога імкнецца задушыць вядомая нам бюракратыя. Вось якую характарыстыку выдае Ютку ягоны старшыня Андрон Сыцюк: «Ютка Казубоўскі — авантурыст, акцыя ягоная — звычайная пагоня за сенсацыяй і наогул шкодная справа, якая спарадзіла нездаровы ажыятаж, няправільную фінансава-гаспадарчую і палітычную арыентацыю, што адцягвае найлепшыя сілы нашага калгаса, раёна, рэспублікі і ўсяго чалавецтва ад стварэння сапраўдных матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей».

Дзе сёння можна такое пачуць? Ды, мусіць, у любой дзяржаўнай установе, якая ваюе з кааператарамі.

Газеты пішуць, што для кожнага цяперашняга чыноўніка — маленькага правіцеля, і, увогуле, для ўсёй строга рэгламентаванай адміністрацыйнай сістэмы ўсякі ініцыятыўны чалавек — бяльмо на воку. І, вядома ж, пры зручным выпадку гэтая сістэма можа загадаць словамі Андрона: «Таварыш участковы... Пакажыце, калі ласка, пісталет з якога мы расстраляем грамадзяніна Казубоўскага без суда і следства як амерыканскага шпіёна».

Пры ўсёй наўмыснай гіпербалічнасці гэтых слоў, пры ўсім зразумелым імкненні аўтара дзеля жывінкі падпусціць у сваё апавяданне элементы так званага чорнага гумару, трэба прызнаць — гэта ўжо не проста сацыяльна падтэкставая сатыра, гэта самы звычайны страх за чалавека.

Я не схільны да ўтапізму, але ж веру, што ўрэшце кожная яркая індывідуальнасць будзе зразумета грамадствам, і кожнае будаўніцтва сваёй вежы не будзе ўспрымацца як нешта непатрэбна-прыкрае, а то і шкоднае.

Ад тае ж веры неаддзельны і аўтар — паэт Уладзімір Някляеў. Вось на якой урачыстаспакойнай ноце развітваецца ён са сваім Юткам. Гэтым спакоем, больш чым якой іншай метафарай, выказана сацыяльная пэўнасць і неабходнасць Юткавага будаўніцтва: «Ютка кіраваў напрасткі і ўверх, даплыў да вежы, перабраўся на яе і адштурхнуў карабель да Літвінавай гары. Пачакаў, пакуль той аказаўся на звыклым месцы, разаслаў на плоскім камені свой парадны фрэнч, лёг і заснуў. Каля новенькага, толькі што адкаванага, распаленага яшчэ маладзіка Ютку было цёпла. Нават прыпякала са спіны»..

Напрыканцы хочацца спытацца — ці будзе мець уплыў някляеўская «Вежа» на прозу пачаткоўцаў? Ці з'явяцца паслядоўнікі ў Семашкевіча, якія па-новаму прачытаюць «Бацьку ў калаўроце»?

Хочацца, каб так было.

А пакуль жа самая найноўшая генерацыя празаікаў (С. Дубавец, С. Кавалёў, С. Тарасаў, А. Федарэнка, У. Сцяпан, Г. Ланеўская, А. Наварыч) схільная пераважна да сурова га пісьма, нібыта гэта не іхні клопат — ператварыць дэфіцыт смеху ў дастатак.

## На атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР

Для сапраўднага мастака ніколі не было спрыяльных часоў. А што да нашай літаратуры, то яна ўвогуле стваралася, у пераважнай большасці сваёй, дзякуючы нязломнай веры ў лепшую будучыню свайго народа, дзякуючы ўпартай самаахвярнасці і самааддансці творцаў. Варта яшчэ раз добрым словам успомніць нашых пачынальнікаў-адраджэнцаў: Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Янку Лучыну, Цётку. І варта аддаць належнае тым мастакам, якія і ў гады сталінскай рэакцыі, і ў беспрасветныя часы застою не адасобіліся ад свайго народа, а менавіта праз мастацкасць, апасродкавана выявілі ў сваіх творах той рух і той накірунак грамадства, які вызначаў сутнасць іх часу, іх эпохі. У першую чаргу гэта «Палеская хроніка» І. Мележа, ваенныя аповесці Васіля Быкава, дзе менавіта праз мастацкасць на поўную сілу выявілася трагедыя калектывізацыі і апошняй вайны. Але, акрамя гэтых трагічных старонак, у гісторыі нашага народа ёсць яшчэ адна незагойная рана — горыч падманутых надзей Заходняй Беларусі, для якой мажорны гімн доўгачаканага ўз'яднання змяніўся гукамі жалобы.

Галіна ТЫЧКА

# На неспазнаны круг жыцця...

Пра складанасць палітычнага становішча і духоўнага стану нацыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі напярэдадні другой сусветнай вайны распавядаецца ў трылогіі Вячаслава Адамчыка, якая была распачата ў 1978 годзе раманам «Чужая бацькаўшчына» і прадоўжана раманамі «Год нулявы» (1983) і «І скажа той, хто народзіцца» (1987). Гэта цыкл, які па словах самога аўтара, павінен быў адлюстраваць «лёс сям'і Корсакаў, лёс вёскі Верасава, а за імі лёс народа».

Раманы Адамчыка не засталіся па-за ўвагай сур'ёзнай літаратурнай крытыкі. Пра іх пісалі В. Каваленка, Д. Бугаёў, Я. Лецка, С. Андраюк і іншыя. Было выказана многа слушных думак і меркаванняў. Цікавую версію ў разуменні рамана «Чужая бацькаўшчына» прапанаваў В. Каваленка. «Пісьменнік глядзіць на ўвесь лад сялянскага жыцця ва ўмовах капіталізму як на лад адсталы і асуджаны, поўнасцю супроцьпаказаны сапраўднаму чалавечаму існаванню, — пісаў даследчык, — гэты лад дажывае апошнія часіны, ён на схіле свайго ўласнага дня і яму наканавана гісторыяй адысці ў нябыт. Адчуванне асуджанасці і завядання вызначае ўвесь эмацыянальны настрой твора. І таму ўсякае буянне прыроды, магутная сіла яе жыццядзейнасці, найвышэйшы момант аказаліся б неарганічнымі ў той сістэме мастацкага ўзнаўлення жыцця, якую выбраў В. Адамчык». І сапраўды, перагарнуўшы апошнюю старонку рамана «І скажа той, хто народзіцца», можна цалкам пагадзіцца з В. Каваленкам, што ў сістэме мастацкага ўзнаўлення жыцця, выбранай В. Адамчыкам, няма месца буянню прыроды. Але так адбываецца, напэўна, не толькі таму, што пісьменнік хацеў паказаць адсталасць і асуджанасць капіталістычнага ладу. І ў заключным рамане, калі ўсталяваўся новы лад, эмацыянальны настрой твора вызначаюць усё тыя ж журботныя краявіды дажджлівашэрай восені і сівернай халоднай зімы, а ў развагах герояў пра свет і жыццё прысутнічае ці не больш песімізму, чым у папярэдніх дзвюх кнігах.

Змяняюцца поры года, змяняюцца ўлады, але ні вясна ні лета не адлюстроўваюцца пісьменнікам у кідкіх, насычаных фарбах. Успомнім уласнае прызнанне В. Адамчыка: «Каб я быў мастаком і меў шчыра балючы талент Ван-Гога, я нашу вёску, зямлю і людзей маляваў бы не ў сіні, а ў шэра-жоўты колер — колер прывялага лета, спелага жыта і нашае нішчымна - пясчанае зямлі... У нас усё шэрае: хаты, неба (бо край дажджлівы) і нават вечары — шарая гадзіна». Што ж, кожны мае права на сваё ўспрыманне. У дачыненні да мастака, напэўна, важней зразумець, чаму менавіта так, а не інакш бачыць ён гэты свет.

«Паэзія Адамчыкавай творчасці, па сутнасці, уся народжана настроем смутку», — пісаў С. Андраюк, і як адну з істотных асаблівасцей творчай манеры пісьменніка адзначаў здольнасць стварыць адпаведны настрой, насыціць усе падзеі, узаемадачыненні герояў, іхнія учынкі, думкі моцнай эмацыянальнай атмасферай.

У чым жа вытокі гэтай паэзіі смутку? Што прымушае В. Адамчыка ўсё задаваць і задаваць сабе пытанне: «Я думаў і думацьму пра тое, чаму асталося восем мільёнаў беларусаў, а іх было больш дзесяці яшчэ тады, калі слынны чалавек з-пад Наваградка, чытаючы курс лекцый у Калеж дэ Франс у Парыжы, гаварыў пра найпекшую прастату нашай мовы. Я хачу гэта зразумець: для сябе і для другіх».

Ці не з гэтага жадання зразумець і нарадзілася першапачатковая задума трылогіі пра лёс адной сям'і, адной вёскі і ўсяго народа? І ці не ў гэтым пачатак Адамчыкавага смутку, схільнасці яго да журботнашчымлівых настрояў і краявідаў?

Падзеі ў трылогіі В. Адамчыка амаль не выходзяць за межы маленькай вёскі Верасава і яе ваколіц. Толькі ў апошнім рамане «І скажа той, хто народзіцца» дзеянне часткова пераносіцца ў мястэчка Дварчаны, куды перабіраюцца верасаўскія героі твора, ды яшчэ разам з Літаварам чытач трапляе ў глыб Польшчы, на франты другой сусветнай вайны. Але менавіта тут, у гушчы народнага жыцця, на фоне з этнаграфічнай дакладнасцю выпісаных карцін звыклага сялянскага побыту, найбольш яскрава і адкрыта выяўляюцца ўсе грамадскія і палітычныя тэндэнцыі таго часу.

Безумоўна, можна папракнуць пісьменніка, што ён не адлюстраваў усёй складанасці і шматстайнасці нацыянальна-вызваленчага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі. А на гэтай жа зямлі, дзе жыло паводле перапісу 1939 года больш чатырох мільёнаў беларусаў, фактычна палова нацыі (у БССР пасля ўсіх узбуйненняў было чатыры мільёны васемсот сорак дзевяць тысяч) дзейнічала значная колькасць партый і палітычна-грамадскіх арганізацый. Акрамя КПЗБ, якая налічвала 11 акруговых і больш за 90 раённых камітэтаў, дзейнічалі яшчэ БСРГ (Беларуская сялянска-рабочая грамада) — мела больш за 120 тысяч членаў, БНП (Беларуская народная партыя), БХД (Беларуская хрысціянская дэмакратыя), БСС (Беларускі сялянскі саюз), Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацый (Цэнтральны саюз, Беларуская санацыя), урэшце, клуб «Змаганне» і ТБШ, якая стварыла больш пяцісот гурткоў, што актыўна займаліся культурна- ас-

# МУЗЫ НЕ МАЎЧАЛІ

На адным з літаратурных вечароў прагучаў папрок у адрас пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў — усіх дзеячаў мастацтва: гэта вы зараз надта асмялелі, а дзе ж вы былі раней, у час застою, калі трэба было змагацца з душнай атмасферай самазадаволенасці і самаўсхвалення? Так, вядома, кан'юнктуршчыкі заўсёды былі і, мусіць, заўсёды будуць. Але не яны вызначалі воблік беларускай літаратуры і мастацтва.

Дзімка, герой «Апошняй інстанцыі» Мікалая Матукоўскага, ужо ў пачатку 80-ых пытаўся пра тое, пра што мы гаворым толькі сёння: «Чаму я павінен казаць праўду толькі на вушка? Толькі з вока на вока? Чаму я не магу назваць дурня дурнем, нягодніка — нягоднікам?! Чаму ў нас так атрымліваецца: сягоння бог, заўтра ніхто? У нас жа дэмакратыя, партыя, ЦК». Згадзіцеся, што і ў эпоху галоснасці не ўсе асмельваюцца адкрыта задаваць гэтыя пытанні.

Усё гэта згадалася ў сувязі з тым, што «Мудрамер», вылучаны сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР, пісаўся ў час, калі пра перабудову яшчэ ніхто ўслых не гаварыў. Але пра яе думалі, пра яе марылі. Аўтару проста пашанцавала, што апошнюю кропку ў сваёй п'есе ён паставіў тады, калі ў краіне пачаліся радыкальныя змены. Выпадковае супадзенне? Наўрад.

У апошняй п'есе, у параўнанні з папярэднімі, адчуваецца большая ступень грамадзянскай спеласці і прафесійнага майстэрства аўтара. І «Амністыя», і «Апошняя інстанцыя» ўсё ж выглядаюць прыватнымі гісторыямі. У «Мудрамеры» М. Матукоўскі выйшаў на абагульненні: высмеяў усю заскарузлую бюракратычную сістэму, вяршыняй якой з'яўляецца прыдуманае аўтарам міністэрства ўзгадненняў. Такога міні-

## *Да 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі*

# ХЛЕБ НАДЗЁННЫ, ХЛЕБ ДУХОЎНЫ

### З Рэспубліканскага свята паэзіі



АКЦЯБРСКІ... На карце Радзімы не адзін дзесятак населеных пунктаў з такой назвай, ды гарадскі пасёлак Акцябрскі, што на Гомельшчыне, асабліва знакаміты. Згадваеш яго, і адразу ў памяці ажываюць падзеі, што адбываліся ў славутай Рудабельскай рэспубліцы. Абвешчаная ў тутэйшых мясцінах Савецкая ўлада (22 лістапада 1917 года) адразу ж дала добрыя ўсходы грамадскай, сацыяльнай актыўнасці мясцовага люду, росту яго нацыянальнай свядомасці.

З павагай прыгадваюць у раёне імёны А. Салаўя, Л. Адзінцова, М. Ляўкова, М. Уса і іншых, хто нёс у палескую глуш святло новага жыцця. Гэта яны, першыя камунары Рудабелкі, Карпілаўкі і Рудні (у выніку аб'яднання гэтых вёсак у жніўні 1954 года і з'явіўся пасёлак Акцябрскі), іх паплечнікі і прадаўжальнікі зрабілі ўсё для таго, каб чырвоны сцяг не знімаўся тут ніколі. Савецкая ўлада адчувала сябе паўнапраўным гаспадаром у Рудабелцы нават у час акупацыі Беларусі ворагамі: войскамі кайзераўскай Германіі (1918) і буржуазна-памешчыцкай Польшчы (1919 — 1920), гітлераўцамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Гісторыя Акцябрскага — гэта першы на тэрыторыі Беларусі партызанскі атрад у грамадзянскую вайну і адзін з першых — у Вялікую Айчынную... Яе старонкі — гераічны лёс Ц. Бумажкова і Ф. Паплаўскага, якія першымі сярод народных мсціўцаў былі ўдастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза. Нарэшце, гісторыя Акцябрскага раёна — не менш слаўнае сёння, у скарбонку якога ўпісваюцца працоўныя дасягненні хлебаробаў раёна.

Правядзенне чарговага рэспубліканскага свята паэзіі менавіта ў Акцябрскім набыло сімвалічны сэнс. Прысвечанае 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі, яно ў пэўнай ступені і своеасаблівае падрахункаванне шляху, пройдзенага рэспублікай і беларускай літаратурай за гады Савецкай улады, магчымасць не толькі ўзважыць набыткі, але і пагаварыць аб планах, аб тым, што неабходна зрабіць, каб літаратура была на вышыні задач, якія стаяць перад ідэалагічнымі і творчымі работнікамі ў час рэвалюцыйнага абнаўлення грамадства, яго далейшай дэмакратызацыі і перабудовы.

...Прадстаўнічая пісьменніцкая дэлегацыя на чале са старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Максімам Танкам адразу ж адчула на зямлі гераічнай Рудабелкі атмасферу сардэчнасці і цеплыні. Гасцінная сустрэча на мяжы раёна. Шчырыя ўсмешкі і букеты кветак. Хвіліна маўчання ля манумента, што ўзведзены побач, ля дарогі, і назва якога — «Беларусь-партызанка».

Першымі гідамі для гасцей сталі сакратары Акцябрскага райкома партыі М. М. Судас і Д. П. Высоцкі. Расказаць ім ёсць пра што. І пра слаўнае мінулае раёна, і пра сённяшні дзень. У раёне нямала робіцца для таго, каб стварыць людзям спрыяльныя ўмовы для плённай працы і добрага жыцця, паспяхова вырашаюцца пытанні сацыяльна-бытавога і культурнага плана. У тым ліку і кадравае пытанне. Вынікі навідавоку — 60 працэнтаў настаўнікаў раёна — тутэйшыя. Такі ж накірунак узяты і на культурнай ніве.

Далейшае, ужо непасрэднае знаёмства пісьменнікаў з раёнам адбылося ў раённым прадпрыемстве «Аграпрамтэхніка». Дырэктар прадпрыемства Г. Пятух расказваў гасцям, як жыве і працуе калектыў, як ён адпачывае. У клубе «Аграпрамтэхнікі» адбылася сустрэча з членамі літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі раённай газеты «Чырвоны Кастрычнік». Госці пазнаёміліся са спецыяльным нумарам «Чырвонага Кастрычніка», прысвечаным святу паэзіі, мясцовыя аўтары Г. Аніскові і М. Лоўгач прачыталі свае творы.

Потым — экскурсія па раённым цэнтры. Кветкі да помніка У. І. Леніну і да манумента змагарам за Савецкую ўладу, да помніка Ц. Бумажкову і да пліт брацкай магілы, дзе пахаваны воіны, што вызвалялі Акцябрскі, мясцовыя і мірныя жыхары — усяго некалькі дзён ўдалося пабыць фашыстам у раёне, але і за гэтыя дні было знішчана 700 чалавек.

Не маглі госці прайсці міма музея Народнай славы. Ён невялікі, але змястоўны, у ім сабраны тысячы экспанатаў, многія з якіх унікальныя. Экскурсію вёў дырэктар музея В. Зыблеў...

...Перапоўненая зала раённага Дома культуры. Тут адбылося галоўнае мерапрыемства свята — вялікі паэтычны вечар.

— Мы сабраліся,— гаворыць першы сакратар райкома партыі М. Судас, — на вялікую ўрачыстасць — Рэспубліканскае свята паэзіі. Яно прысвечана 70-годдзю ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі, якое адзначаем сёлета. І нам вельмі прыемна, што яно праходзіць на нашай зямлі, такой багатай рэвалюцыйнымі, баявымі і працоўнымі традыцыямі.

М. Судас адзначае, што жыццё працоўных раёна даўно цікавіць пісьменнікаў і журналістаў, называе вядомую аповесць С. Грахоўскага «Рудабельская рэспубліка», спектакль і фільм па ёй, гаворыць пра нарыс земляка рудабельцаў У. Правасуда «Рэвалюцыяй народжаная», аб тым, што над кнігай нарысаў пра сённяшніх рудабельцаў працуе В. Шырко.

У заключэнне М. Судас віншуе ўсіх прысутных са святам, жадае гасцям натхнення, выказвае пажаданне, каб сустрэча пісьменнікаў з людзьмі раёна не прайшла бясследна, падказала ім тэмы новых твораў.

— Дарагія сябры! Людзі славутай Рудабельскай рэспублікі, землякі несмяротнага Аляксандра Раманавіча Салаўя! — гаворыць вядучы паэтычнага свята, першы сакратар праўлення СП БССР Ніл Гілевіч.— Усіх нас сабрала разам паэтычнае свята, якое сёння праходзіць па ўсёй рэспубліцы, але своеасаблівай сталіцай якога выбраны ваш горад. І гэта невыпадкова — можна сказаць, сам лёс пайшоў вам насустрач.

Н. Гілевіч нагадаў вядомыя ленінскія словы, што найлепшым чынам адзначыць юбілей — гэта засяродзіць увагу на нявырашаных задачах, на тым, што неабходна зрабіць у бліжэйшы час. Цяпер, калі ў краіне адбываецца перабудова, менавіта на такое правядзенне святаў настройваюць сябе і пісьменнікі. Толькі тады можна дасягнуць сапраўдных поспехаў, калі будуць спалучаны клопат пра хлеб надзённы з клопатам пра хлеб для душы, падкрэсліў Н. Гілевіч.

Хлеб надзённы... «Часамі ён горкі ад пылу быў, часамі салёны ад слёзаў быў, часамі гарачы ад пораху быў, але і салодкі ад дружбы быў мой хлеб надзённы»,— чытае на вечары адзін са сваіх вядомых вершаў Максім Танк.

Гераічная Рудабелка стала часцінкай лёсу С. Грахоўскага. Упершыню прыехаў ён сюды 11 ліпеня 1935 года, каб падрыхтаваць пра мужных камунараў радыёперадачу. Другая сустрэча адбылася роўна праз трыццаць гадоў, калі пісалася аповесць «Рудабельская рэспубліка». І вось ён зноў тут, чытае свой верш «Галасы на Палессі», у якім ажывае і вобраз легендарнага арганізатара партызанскага руху на Акцябршчыне А. Салаўя:

**У крохкай таямнічай цішыні,**
**Па даўніх**
**партызанскіх папялішчах**
**Начамі загараюцца агні**
**І Салавей умоўным свістам**
**свішча...**

Выступаюць з чытаннем вершаў В. Кузняцоў (Ленінград), Д. Іваноў (Украіна), Г. Каржанеўская, І. Калінаўскас (Літва), П. Макаль, Г. Пашкоў, І. Якайціс (Латвія), А. Вярцінскі, С. Законнікаў, Б. Спрынчан, Н. Загорская, М. Мятліцкі, У. Дзюба, У. Паўлаў, Я. Міклашэўскі, В. Зуёнак, Н. Гілевіч... Паэты чытаюць вершы, гутараць з залай, і ў самім характары гэтай размовы, у самой атмасферы дыялога паміж пісьменнікам і чытачом — яшчэ адно пацвярджэнне незваротнасці змен, якія адбываюцца ў жыцці грамадства і якія з прыхільнасцю сустрэты савецкім народам.

Святочны канцэрт, які затым адбыўся, засведчыў, наколькі яркія, самабытныя народныя таленты на гэтай зямлі. Сваім майстэрствам парадавалі ўдзельнікаў паэтычнага свята фальклорны ансамбль Пратасаўскага сельскага Дома культуры, ансамбль лыжкароў Новадуброўскай школы, народны ансамбль песні «Верачка», узорны танцавальны ансамбль «Верасок», удзельнікі мастацкай самадзейнасці Акцябрскай сярэдняй школы № 2, іншыя калектывы і асобныя выканаўцы.

У Рэспубліканскім свяце паэзіі (ініцыятарамі правядзення яго на рудабельскай зямлі Саюз пісьменнікаў БССР і Акцябрскі РК КПБ) прынялі ўдзел намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ Р. Л. Бузук, інструктар аддзела У. Б. Наркевіч, сакратар Гомельскага абкома партыі С. П. Бабыр, старшыня Акцябрскага райвыканкома Г. М. Дзехцяроў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».**



Пасля ўскладання кветак да манумента «Беларусь-партызанка».



Кветкі ад дзяцей прымаюць Ніл ГІЛЕВІЧ і Максім ТАНК.



Яўген ГЛЕБАЎ

# Спроба быць шчаслівым

**30 кастрычніка адкрываецца пленум праўлення Саюза кампазітараў БССР, прысвечаны 50-годдзю гэтай творчай супольнасці. На працягу тыдня ў канцэртных залах Мінска будзе гучаць музыка розных жанраў, створаная кампазітарамі рэспублікі ў розныя гады. Пра набыткі паўвекавой працы беларускага кампазітарскага саюза і пра яго нявырашаныя праблемы гаворка пойдзе на пленумаўскай дыскусіі. А ў «ЛіМе» сёння бярэ слова намеснік старшыні праўлення СК БССР, народны артыст Савецкага Саюза прафесар Яўген Глебаў.**

I

Ужо не раз у цэнтральным друку гаварылася пра страту прэстыжу савецкай кампазітарскай арганізацыі, пра яе забюракрачаную цэнтралізаваную структуру. Гаварыў на гэтую тэму і я, са старонак «ЛіМа», «Советской культуры». З гэтым жа выступаў на мінулым нашым пленуме І. М. Лучанок. Але хіба штосьці мяняецца? Мы ўсё больш страчваем аўтарытэт як творчы саюз, а наша музыка губляе прыхільнікаў.

Цяпер, калі адраджаецца ў многіх сумленных людзей нацыянальная самасвядомасць, калі смялей змагаюцца за чысціню экалагічнага і духоўнага асяроддзя, у нашай арганізацыі па-ранейшаму пануюць дробязныя інтарэсы, клопаты пра асабісты спакой і дабрабыт. Усе вялікія павевы нібы абмінаюць наш саюз і нават чутная пагалоска: маўляў, гэты саюз увогуле непатрэбны, яго трэба разагнаць. Заадно ставіцца пад сумненне сама прафесія кампазітара: каму патрэбны розныя там сімфоніі, хто іх разумее? навошта тыя оперы, хто на іх пойдзе?

Вядома такія размовы — невясёлы і трывожны паказчык нізкай культуры, непавагі, нават непрыязнасці да высокіх узораў музычнага мастацтва. Хто тут вінаваты, што прывяло да засілля бездухоўнасці ў нашым грамадстве, — пра гэта цяпер мяркуюць многія нераўнадушныя, разумныя, сумленныя людзі.

Было б памылкаю вінаваціць ва ўсіх грахах рок, які — на тэлебачанні, у канцэртных залах, у самалётах, на спартыўных пляцоўках, на пляжах... Па-першае, як кампазітар і музыкант я не супраць року ўвогуле: як і ўсе музычныя жанры, ён мае права на існаванне. Па-другое, рок — не прычына, ён — вынік. І таму хацелася б, каб найперш усе рэдакцыі нашага тэлебачання звярнулі ўвагу на існаванне беларускай музыкі, якая, паверце, мае набыткі ў розных жанрах. Трэба толькі іх ведаць. Пажадайма, каб на БТ дбалі не толькі пра беларускую мову і фальклор, але і пра музыку беларускіх кампазітараў. Няхай ва ўсіх рэдакцыях — сельскагаспадарчай, прамысловай, прапаганды і г. д., дзе перадачы таксама не абыходзяцца без музычнага суправаджэння, — знаёмяцца з беларускай музыкай і выкарыстоўваюць менавіта яе.

Ці ўзяць адкрыццё сезонаў у Белдзяржфілармоніі. Тут ужо ёсць традыцыя ўключаць у праграму першага канцэрта беларускую сімфанічную музыку. Сёлета сезон адкрыў госць Мінска — Малы сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам Ю. Сіманава. Добры калектыў. Славуты дырыжор. Дык чаму ж у яго праграме не знайшлося месца беларускаму твору? Аркестр быў запрошаны на адкрыццё сезона, прысвечанага 70-годдзю ўтварэння Беларусі і яе Кампартыі. Цікава, ці звярнуўся хто з філарманічнай адміністрацыі з адпаведнай прапановай да Ю. Сіманава?

Можа, досыць нам празмернай сціпласці, якая адкрывае дарогу толькі ў невядомасць? Славутая беларуская сціпласць у гэтым выпадку не на карысць нацыі. Хіба нам не трэба, каб часцей і ў найлепшым выкананні гучала добрая музыка беларускіх кампазітараў? Калі мы не будзем яе прапаноўваць славутым і вядомым артыстам, за нас гэтага не зробіць ніхто: бо хто і адкуль зможа дазнацца, што беларусы ўсё ж сёе-тое маюць. Думаю, што лепшым сімфанічным і харавым калектывам можна прапаноўваць тую ж Шостую сімфонію А. Мдзівані, якая вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР. Твор сталага кампазітара і грамадзяніна.

Вельмі прыкра, што ўсё яшчэ не ўзнікла традыцыя адкрываць сезон Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР беларускім творам. Тамтэйшае кіраўніцтва па-ранейшаму не гатова працягнуць руку нашым кампазітарам для супрацоўніцтва — рэальнага, прадуманага, беспераблйнага.

Пра наша музычна-тэатральнае мастацтва заклапаціліся і ў Міністэрстве культуры БССР. Праўда, заклапаціліся з пазіцый нейкіх дзіўных. Мяркую паводле матэрыялаў БЕЛТА «Што высвеціла рампа» (ён змешчаны і ў «ЛіМе» —23.09. 88 г.). На заўвагу карэспандэнта пра рэпертуар опернага тэатра галоўны рэдактар рэдакцыйнай калегіі міністэрства В. Валадзько адказаў: «Апошнія беларускія пастаноўкі прайшлі тут у дні 100-гадовага юбілею Купалы і Коласа. Гэта былі «Новая зямля» Ю. Семянякі, «Курган» Я. Глебава. і ...усё». Дазвольце мне тут заступіцца за наш ДАВТ: пасля тых спектакляў быў-такі пастаўлены яшчэ адзін балет — «Крылы памяці» У. Кандрусевіча. Гэткай недасведчанасцю кампетэнтнага таварыша можна пакрыўдзіць і тэатр, і маладога кампазітара.

З другога боку, В. Валадзько нічога не сказаў пра тое, што названыя ім творы вельмі хутка зніклі з афішы тэатра па таямнічых матывах. Што з адыходам Т. М. Каламійцавай, нашага легендарнага, самаадданага опернага дырыжора на заслужаны адпачынак пад пагрозай «ліквідацыі» апынуўся і спектакль «Альпійская балада». Гэты балет, які я напісаў паводле аповесці В. Быкава, больш за 20 гадоў жыў на сцэне тэатра, а летась у партыі Івана выступіў малады яркі саліст Карзянкоў, сын славутай нашай балерыны 60-х гадоў А. Карзянковай, дарэчы, першай выканаўцы ролі Джуліі ў «Альпійскай...» Думаю, гэты спектакль вельмі дарагі не толькі для мяне. Шкада, калі ён таксама будзе ахвярай рэпертуарнага валюнтарызму тэатральнай адміністрацыі.

Са слоў В. Валадзько я даведаўся, што «нядрэнна ідзе работа над дзяржзаказам — операй паводле «Дзікага палявання караля Стаха» У. Караткевіча. Лібрэта напісала С. Клімковіч, кампазітар — У. Солтан». Шчыра радуюся за маладога калегу і чытаю далей: «Другі дзяржзаказ міністэрства — балет «Казкі маёй бабулі» па матывах беларускага фальклору». Быццам бы ўсё добра: балет, фальклор. Але... Хто ж аўтары гэтага балета, кампазітар і лібрэтыст?

Працытую яшчэ: «У тэатры музычнай камедыі становішча, на жаль, не лепшае. Паставілі «Несцерку» Р. Суруса на роднай мове. А далей... А далей беларускія аўтары пачалі прапаноўваць для пастаноўкі лібрэта на рускай: «Дзяніс Давыдаў» А. Мдзівані, «Мільянерка» Я. Глебава...» Зноў я вымушаны заступіцца за тэатр. Пасля «Несцеркі» тут быў пастаўлены «Судны час», таксама твор Р. Суруса, паводле п'есы А. Макаёнка «Трыбунал». Але ад гэтай геранчнай музычнай камедыі — нацыянальнага твора — кіраўніцтва тэатра нядаўна пазбавілася...

Вымушаны растлумачыць і тое, што беларускія аўтары А. Мдзівані і Я. Глебаў, якія быццам бы прапаноўвалі тэатру свае опусы з рускамоўнымі тэкстамі, гэтыя самыя свае опусы — «Дзяніса Давыдава» і «Мільянерку» — стваралі адпаведна па заказах Мінстэрства культуры РСФСР для Саратаўскага тэатра аперэты і Міністэрства культуры СССР для Маскоўскага тэатра аперэты. І толькі пасля прэм'ер у тых тэатрах творы трапілі на мінскую сцэну. Калі ж рэдакцыйная калегія МК БССР гэтак дбае пра родную мову, чаму не заключала дагаворы аб перакладзе лібрэта абедзвюх музычных камедый на беларускую? Тэатр жа Міністэрству культуры падначалены. І я, і А. Мдзівані супраць перакладу не пярэчылі б.

Нарэшце, галоўная пазіцыя В. Валадзько: «Тут, думаю, узнікае яшчэ адно прынцыповае пытанне: што лічыць нацыянальным творам? «Джардана Бруна» С. Картэса, «Матухна Кураж», «Маленькі прынц» Я. Глебава — аўтары нашы, але аснову ж твораў беларускай ніяк не назавеш». Ну, вядома, С. Картэс, а не Я. Глебаў напісаў «Матухна Кураж», якая, на жаль, не ўбачыла святло рампы ў родным тэатры, як і мой «Маленькі прынц». Але мы не скардзімся. Опера «Матухна Кураж» пастаўлена ўжо ў Каўнасе, у Кішынёве, у Якуцку. Дый балет «Маленькі прынц» не пакрыўджаны: яго прэм'ера адбылася за мяжой — у Хельсінкі, у тэатры Фінскай нацыянальнай оперы, потым у Горкаўскім тэатры і ў Вялікім тэатры Саюза ССР, на сцэне Крамлёўскага палаца з'ездаў. Вось толькі з якой прычыны ці з якой мэтай было зададзена пытанне пра «нацпрыналежнасць» нашых музычных твораў? Можа, дзеля таго, каб апраўдаць абыякавасць да іх з боку роднага тэатра оперы і балета?

Сусветная практыка і культура адказала на гэтае пытанне даўно: музычныя творы, напісаныя паводле першакрыніц, якія створаны нават не суайчыннікамі кампазітара, належаць да музычнай культуры таго народа, да якога належыць кампазітар. Каб зразумець гэта, дастаткова было б самастойна вырашыць вельмі простую задачку: ці лічыцца набыткам рускай музычнай культуры «Итальянское каприччио» П. Чайкоўскага, «Испанское каприччио» М. Рымскага-Корсакава? Ці можна лічыць рускімі творамі «Спящую красавицу», «Лебединое озеро», «Щелкунчик» таго ж Чайкоўскага? Або «Ромео и Джульетту», «Любовь к трем апельсинам», «Золушку» С. Пракоф'ева.

Опера ўкраінскага кампазітара В. Губарэнкі «Альпійская балада» паводле аповесці беларуса В. Быкава, гэтаксама і ягоны «Вій» паводле класіка рускай літаратуры М. Гогаля — набыткі, безумоўна, украінскай музычнай культуры. Аналагічных прыкладаў багата...

Так што дазвольце і нам, небаракам, належаць са сваімі творамі да сваіх. Бо калі прадаўжаць «пастаноўку пытанняў», дык можна ўвогуле навесці цень на ясны дзень, маўляў. а што гэта за прозвішчы ў кампазітараў: Солтан, Сурус, Мдзівані, Картэс, ды і Глебаў, як кажуць, не зусім беларус... Вось да чаго даводзіць местачковае мысленне. Мо пара ўжо ўсіх нас загнаць у разрад «бязродных касмапалітаў»?

Дык ці не хопіць «рабіць пытанне» там, дзе яго няма?

Вось што і сапраўды «стварае пытанне», дык гэта лібрэта. Зразумела, Міністэрства культуры не хоча рызыкаваць і аплачваць заказаныя п'есы, лібрэта, не маючы гарантый, што творы не лягуць на паліцу. Але ж ёсць такая форма заахвочвання аўтараў, як конкурс, няўжо забыліся! Ён дае магчымасць

# ЭКСПАЗІЦЫЯ ТРОХ

У верасні ў Палацы мастацтваў працавала выстаўка трох жывапісцаў: У. Гардзеенкі, Л. Дударанкі, У. Уродніча. Гэтыя імёны вядомы аматарам мастацтва. Мастакі неаднойчы ўдзельнічалі ў рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаўках, іх палотны неаднойчы рэпрадуктаваліся ў рэспубліканскіх выданнях.

Карціны У. Гардзеенкі «Салют над Прыпяццю» і «Безыменная вышыня» былі ў экспазіцыі сумеснай выстаўкі беларускіх і заходнегерманскіх мастакоў «Вайна стукае ў сэрца кожнага». Шмат якія творы У. Гардзеенкі прысвечаны прыродзе і людзям Палесся. У мастака адметная жывапісная манера. Ягоныя творы вылучаюцца сярод карцін тых жывапісцаў, якія трымаюцца натуралістычнага разумення колеру. Гардзеенка пачынаў як тэатральны мастак. Менавіта такую спецыяльнасць ён атрымаў у БДТМІ. У жывапіс ён прыйшоў з тэатра. Гэтая акалічнасць не ў малой ступені паўплывала на фарміраванне вобразнага ладу ягоных жывапісных палотнаў. У станковай карціне У. Гардзеенка не ілюстратар, не бытапісец, а рэжысёр, які імкнецца да дакладных, пластычна выразных характарыстык герояў.

Для Л. Дударанкі гэта ўжо чацвёртая за ягоны 25-гадовы творчы шлях персанальная выстаўка. Шмат з таго, што пабачылі гледачы гэтым разам, створана ў час творчых паездак па краіне — Далёкі Усход, Прыбалтыка, Сярэдняя Азія, Каўказ, а таксама за мяжу — Афганістан, Балгарыя, ГДР. Працуе мастак у галіне тэматычнай карціны, у жанры партрэта, нацюрморта. У ягоных палотнах на першым месцы не колер, не каларыт, а падрабязны малюнак. На вялікіх выстаўках ягоныя работы звычайна відаць здалёк.

Значнае месца ў творчасці У. Уродніча займаюць тэмы, якія ў нядаўнія часы лічыліся прыярытэтнымі. У прыватнасці, тэма «Сацыялістычнае пераўтварэнне Палесся» ці, прасцей кажучы, меліярацыі. Творам У. Уродніча ўласціва пэўная дэкларацыйнасць як праява агульнай палітызацыі мастацтва мінулых дзесяцігоддзяў.

Экспазіцыя выстаўкі трох жывапісцаў не роўная, бо і самі мастакі розныя па здольнасці да мастацкага абагульнення, па творчай манеры. Многія з прадстаўленых работ створаны за апошнія тры гады, але з арыентацыяй на ацэначныя крытэрыі папярэдніх часоў. Увогуле экспазіцыя ўспрымалася рэтраспектывай тэматыкі і стылістычных прыёмаў пачатку 70-х гадоў. Менавіта гэтым яна і была цікавай.

П. ПЕТРУЧОК.

# НА ГАЛОЎНАЙ ВЫСТАЎЦЫ КРАІНЫ

Залатая восень... На галоўнай выстаўцы краіны рэкламныя стэнды абвяшчаюць закрыццё летняга сезона, апошнія выступленні з творчымі справаздачамі лепшых калектываў мастацкай самадзейнасці — удзельнікаў III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці.

Сярод тых, каму давялося выступаць на ВДНГ СССР, былі і прадстаўнікі Беларускай ССР. Гэта народны ансамбль танца «Крыніцы» і ансамбль народнай песні «Світанак» Палаца культуры і тэхнікі Віцебскага вытворчага аб'яднання «Даламіт». Абодва ансамблі спрактыкаваныя, многа бачылі на сваім творчым шляху, неаднаразова займалі прызавыя месцы на фальклорных фестывалях, аглядах, конкурсах.

Ансамбль «Крыніцы» пад кіраўніцтвам пастаноўшчыка танцаў Я. Сапсона ўжо ў трэці раз выступаў у Маскве. Калектыў гэты ведаюць у многіх мясцінах нашай краіны, яго прымалі гледачы Зорнага Гарадка, ГДР, Польшчы, Югаславіі. «Світанак», якім кіруе хормайстар

 

выбару, плаціць жа трэба толькі прэмію, а прэмія — не ганарар, яна значна ніжэйшая. Заказ можна афармляць на лібрэта, прызнанае лепшым, і на якое знайшоўся ахвотнік пісаць музыку. Ловім адразу двух зайцоў: і літаратары зацікаўлены, і кампазітарам палёгка — не трэба шукаць лібрэтыста ці пыжыцца самому.

Нашы суседзі-прыбалты даўно праблему лібрэта вырашылі праз конкурсы. Там яны — «на лепшае лібрэта на нацыянальную тэму», «на інтэрнацыянальную», «на рэвалюцыйную», «на сучасную» і г. д. А калі наша міністэрства абвяшчала такія конкурсы? Не прыгадваю. У нас жа спрактыкаваных оперных і балетных лібрэтыстаў пасля смерці Я. Рамановіча і А. Бачылы засталося — адзін, два і...

Так, праблема лібрэтыста для нашых кампазітараў набалелая. Спадзяюся, што супрацоўнікі МК БССР усё ж знойдуць магчымасць абвясціць конкурсы на лібрэта, заахвоціць да работы маладых літаратараў, каб гэты жанр у нашай рэспубліцы таксама развіваўся.

II

Я пакуль не знайшоў адпаведнае слова, каб вызначыць абстаноўку ў нашым кампазітарскім саюзе. Адно скажу: становішча гэта небяспечнае. Гучнеюць галасы, якія намагаюцца пасеяць у паветры меркаванне, што беларускай музыкі няма ўвогуле. Калі такое гавораць «вучоныя кабеты», якія ніколі не ставіліся да музыкі з душою, з павагай і добразычліва, - гэта адно. Але калі гавораць самі ж браткі-кампазітары — гэта нонсенс, які можна «растлумачыць» хіба што заскарузлым самаедствам: «калі не я, дык ніхто». У выніку — адсутнасць у саюзе арыенціраў, аўтарытэтаў; бязвер'е, апатыя. А ўсё гэта — дрэнны стымул для творчасці.

Паціху дэвальвуецца наша унікальная прафесія кампазітара, знікае непрыкметна. У саюзе ж не гавораць больш пра музыку — гэта непрыстойная тэма. Набыткі, пралікі, аркестравыя знаходкі, кантакты з выканаўцамі, з калегамі ў краіне і за мяжой, музычная прапаганда мала каго клапоцяць. Затое ў нас праводзяцца мерапрыемствы, сходы, пасля якіх усе разыходзяцца абыякавыя і сумныя. Ажыўляюцца члены саюза толькі пад час з'ездаў. Ажываюць і «мёртвыя душы»—ыя, што прыходзяць у саюз голькі дзеля выбараў праўлення (такіх пільнуюць, агітуюць, нават пояць і прывозяць нападпітку ў з'ездаўскую залу — яшчэ адзін «голас»!). Кучкі, групкі, «размеркаванне галасоў»... І мала каго турбуе, што нехта з нас зусім змоўк, другі ціха сабе піша, трэці ўдасканальваецца ў самапрапагандзе.

Менавіта на шэрым фоне абыякавасці і нашай раз'яднанасці і магла расквітнець такая з'ява, як Пётр Пятровіч Альхімовіч.

«У мяне на кожнага ёсць дасье», — пахваляецца ён. «Навошта?» — пытаюцца ў яго. «На ўсякі выпадак...», — шматзначна адказвае той. Навошта прыстойнаму чалавеку, тым больш кампазітару, мець «дасье» на калег? Ці будзе чалавек сумленны запісваць на магнітафон тэлефонныя размовы? Ці дадумаецца прыйсці на прыём да афіцыйнай асобы, уключыўшы магнітафончык з мэтай пашантажыраваць і абразіць?

Зрэшты, П. Альхімовіч мае багаты набор прыёмаў «уплыву на акружэнне». Для яго зусім проста — абразіць свайго старога настаўніка, а потым тэлефанаваць яму ж па начах з прапановай дапамагчы скласці завяшчанне. Ён не грэбуе наёмнай працай залежных ад яго студэнтаў аркестравага аддзялення БДК, адкрытым «запазычваннем» з чужых партытур. Многія музыканты памятаюць, як П. Альхімовіч цягаў грошыкі са студэнцкіх кішэняў, потым папаўся на крадзяжы баяна, за што ў 60-х гадах быў выключаны з кансерваторыі з рэзалюцыяй тагачаснага рэктара У. У. Алоўнікава: «Выключыць як злодзея». Яго выключалі з партыі, давалі «страгача», яго адыёзная асоба зрабілася жупелам у нашым саюзе і ў кансерваторыі. Але гэта П. Альхімовіча не хвалюе. Там, «дзе трэба», ён падае сябе гэткім пакутнікам за ідэю, якога заціраюць «старыя ваўкі»...

І ёсць такія кіруючыя асобы, што чамусьці вераць Пятру Пятровічу. Можна дапусціць, што начальства шчыра памыляецца наконт яго. Але ж, дапамагаючы ўладкавацца такім, як ён, «панове дабрадзеі» павінны, нарэшце, зразумець: шкодную паслугу робяць яны сапраўднаму мастацтву праз сваю «дабрыню», «чалавечую жаласлівасць»!

Між іншым, цікава было б даведацца, чаму на бюро Мінскага гаркома КПБ, якое змяніла выключэнне П. Альхімовіча з партыі на строгую вымову, не запрасілі прафесара А. В. Багатырова ці каго-небудзь з кафедры кампазіцыі БДК, дзе добра ведалі і па заслугах ацанілі «геройствы» Альхімовіча? А пры чыёй дапамозе было дадзена месца для публікацыі ў «Вячэрнім Мінску» лжывых высноў пра стан беларускай музыкі — высноў чалавека, які зрабіўся ў кампазітарскім асяроддзі фігурай адыёзнай? (Наконт гэтага, дарэчы, у «ЛіМ» пісаў і мой калега А. Залётнеў: «Будзем гаварыць па шчырасці», 15.07.88 г.). Скажаце, галоснасць? Ды не: падстава для дрэнна прыхаванай хлусні і злараднасці. Заадно і набыў П. Альхімовіч «дакуменцік для паказу»: глядзіце, які я смелы, выцяў самых прадуктыўных кампазітараў, перакрэсліў усю пяцідзесяцігадовую гісторыю творчага саюза!

Чалавек у немаладым ужо ўзросце атрымаў дыплом кампазітара. Дык працуй, пішы музыку, заваёўвай аўтарытэт, а не займайся авантурамі і прафанацыяй накшталт складання аўтарскага канцэрта «з атракцыёнам і Полечкай Асяцінскай» на сцэне філармоніі. Дыплом кампазітара — яшчэ не кампазітар. Трэба ўсё жыццё вучыцца, напрацоўваць вопыт, шукаць сродкі для ўвасаблення музычных задумак і ідэй, калі яны ёсць, не пасвіцца ў чужых партытурах, а шукаць **свой** аркестр, пісаць **сваю** музыку!

Між іншым, П. Альхімовіч прэтэндуе і на тое, каб весці клас кампазіцыі. Чаму навучыць такая асоба?

У мяне быў вучань — Віктар Пятровіч Помазаў. Мець такога вучня — шчасце для настаўніка! Таленавіты, светлы ва ўсіх адносінах чалавек. Я рыхтаваў яго на сваё месца ў музыцы, у кансерваторыі. Але ён памёр.

І вось калі такія персоны, як Альхімовіч, пішчом лезуць яшчэ і ў святую справу выхавання моладзі, — я пратэстую ўсёй сваёй істотай, мая прафесія і маё сумленне не могуць прыняць гэтага. Колькі можна цярпець, маўчаць — «абы ціха»?! Хопіць баяцца «чалавека з магнітафонам» і берыеўскімі прыёмамі. Гэта зло, гэта сорам нашага музычнага мастацтва. Злу трэба даваць адпор, даваць рашуча, своечасова.

III

Няма сёння ладу ў нашым кампазітарскім доме. Але ў нас, дзякуй богу, не зваліся сумленныя людзі і сапраўдныя прафесіяналы. Трэба заўважаць іх! І паважаць. Але дзе наша зычлівасць да калег? Дзе радасць за агульныя, усіхнія набыткі? Хіба не было спектакляў, пастаўленых у розных гарадах краіны на музыку Ю. Семянякі, А. Мдзівані, Р. Суруса? Хіба не гучаць шырока лепшыя песні І. Лучанка, Л. Захлеўнага, Э. Ханка, В. Раінчыка, В. Іванова, Э. Зарыцкага?

І яшчэ. Пакуль не будзе зразумела, што ў лепшых тэатрах краіны і за мяжой ставіліся не творы імярэк С. Картэса і Я. Глебава, а творы **беларускай музыкі**, нашы нацыянальныя опера і балет былі прадстаўлены там. Пакуль мы не пачнём ганарыцца нават маленькімі поспехамі адзін аднаго, не перастанем замоўчваць ці ганіць набыткі таварышаў, ажно трасучыся ад зайздрасці. Пакуль гэтага не будзе — нічога не палепшыцца ў маральным клімаце нашага саюза і свежае творчае паветра перабудовы не напоўніць яго сцены.

Некалі Бальзак заўважыў, што людзі зробяцца шчаслівымі толькі тады, калі зразумеюць, што такое талент. Паспрабуем быць шчаслівымі.

**Н. Няпомняшчая (яна ж акампануе на баяне) парадавала гожым выкананнем беларускіх народных песень. Праграму творчай справаздачы ўмела вяла абаяльная Л. Сініцына.**

**Цяжка вылучыць з вялікай разнастайнай праграмы беларускіх калектываў самае лепшае. Усё ішло на высокім мастацкім узроўні — ці то «Прывітальная кампазіцыя», якая распачала канцэрт, ці то ўсімі любімая «Лявоніха», ці то «Рассыпуха» або «Полька дробная». Усё выконвалася з маладым імпэтам.**

**Дырэкцыя ВДНГ СССР адзначыла поспехі ансамбляў, узнагародзіўшы іх дыпломамі, а кожнага выканаўца — значком «Удзельніку творчага паказу на ВДНГ СССР».**

**В. БЕЛЯКОЎ,**
**рэжысёр-пастаноўшчык,**
**член СТД РСФСР.**

г. Масква.



Беларуская полька. Фота аўтара.




АТУЛЕНАЯ ласкай спакойнага чыстага дыхання залатой восені, Вілейка была такою святочнай! Праўда, многія гарадскія ўрачыстасці мы ўжо не заспелі: усё пачыналася тут апоўдні, мы ж прыехалі з Мінска толькі праз чатыры гадзіны, аўтобусам, што прывёз артыстаў к вячэрняму канцэрту... Але яшчэ ішло на прыступках Дома культуры прадстаўленне тутэйшага народнага тэатра — пад воклічы цікаўнага люду; яшчэ вабілі на плошчу стракатыя аздабленні кірмашовых павільёнаў; яшчэ можна было пакратаць сплецены з лазы крэселка-гушкалку, падзівіцца на вырабы віртуозаў-разьбяроў.

Тут мы пабачыліся з работнікамі Беларускага тэлебачання і радыё — рэжысёрам А. Дыбчам, рэдактарам Л. Макаранкай, музычным каментатарам Л. Шпілявой і гукарэжысёрам Э. Шабалінай, якія з ранку запісвалі рэпартаж са свята горада. Расказалі яны пра «паэтычную альтанку», дзе гучалі вершы ў аўтарскім выкананні, пра канцэрт самадзейных і прафесійных музыкантаў з Вілейшчыны і суседніх раёнаў, пра ўражлівыя спевы ўзорнага хору Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве, пра «карабейнікаў» з кнігамі, дзіцячае свята ў парку і кірмаш народных рамёстваў. І, вядома, пра тэатралізаваную цырымонію адкрыцця ў Вілейцы Дома мастацтваў.

На вольным паветры, побач з дыхтоўнымі цаглянымі сценамі Крыжаўздзвіжанскага касцёла, разгарнулася фотавыстаўка С. Глобы, прысвечаная рэстаўратарам гэтай камяніцы. Пабудаваная на пачатку нашага стагоддзя як каталіцкі храм (1913 г.), яна доўгі час была занядбанаю, а з 1979 па сёлетні год аднаўлялася — каб зрабіцца асяродкам разнастайнага сучаснага духоўнага жыцця. На гэтым «маладым» яшчэ храме няма і не было ахоўнай дошкі, якая надавала б яму годнасць помніка дойлідства. Ля ўваходу прымацавана цяпер шыльдачка: «Міністэрства культуры БССР. Вілейскі Дом мастацтваў імя М. Ю. Сілівановіча». Так вось пазначана не толькі вартасць самога будынка, але і годнасць, і унікальнасць той атмасферы, што павінна запоўніць прастору аднаўленага храма.

Нарэшце, я пераступіла яго парог. Доўга разглядала падобны фрагментамі на грызайль, стрыманы па каларыце, але мудрагелісты роспіс сцен, столі, скляпенняў. Разгадвала логіку майстроў-рэстаўратараў, якія спалучалі культавыя выявы крыжоў і архангелаў з прагматычнымі лініямі нейкіх геаметрычных разлікаў, ланцужкамі расліннага арнаменту, стужкамі паэтычных радкоў і з простым жытнёвым каласком, што ўзяты з герба Вілейкі...

У новым доме размясцілася і першая ў Вілейцы стацыянарная экспазіцыя беларускіх мастакоў: вядомыя графічныя творы Г. Паплаўскага, А. Кашкурэвіча, А. Паслядовіч, некалькі жывапісных палотнаў Л. Дударанкі, С. Катковай, Б. Казакова. Да ўсяго, можна было прачытаць звесткі пра Мікадзіма Сілівановіча, мастака-акадэміка, аднаго з тых, хто афармляў інтэр'ер і галоўны іканастас пецярбургскага Ісакіеўскага сабора, ураджэнца Вілейшчыны.

Дом мастацтваў—гэта і новая канцэртная зала са своеасаблівай акустыкай. З часам тут установяць арган, з часам камерныя музычныя ансамблі асвояць сакрэты нязвыклай пакуль акустыкі, зробіцца традыцыяй гучанне хораў у гэтых сценах. А пакуль, 16 кастрычніка 1988 года, — адкрыццё сцэны, першы вячэрні канцэрт.

...Ён прайшоў на ўзроўні рэспубліканскіх філарманічных праграм. У Вілейку прыехалі добра вядомыя нашы музыканты Г. Забара, К. Шараў, В. Пархоменка са струнным ансамблем, А. Алоўнікаў, А. Цялякоў, Ю. Гільдзюк. Вёў канцэрт папулярны дыктар У. Шаліхін. Гучалі кларнет, віяланчэль, клавесін, скрыпка, раяль... І — сапрана: вельмі эфектна спявала ў гэты вечар салістка оперы Л. Колас (што ацаніла і не спешчаная высокім мастацтвам вілейская публіка).

Перад самым ад'ездам з Вілейкі пагаварылі з Валянцінай Цітовіч, дырэктарам Дома мастацтваў. Зразумела, у яе як ні ў кога падрыхтоўка да адкрыцця, дый само свята, забрала і сілы, і сон, і нервы. Яна, мусіць, лепш за іншых бачыць зараз і тое, што яшчэ трэба даводзіць да ладу ў аднаўленым будынку, і часовыя цяжкасці, і карэнныя праблемы культурнага жыцця беларускага мястэчка. Яна спадзяецца, што Дом мастацтваў паспрыяе раскрыццю і яднанню ўсіх творчых сіл Вілейшчыны. Што можна будзе ажыццявіць (ужо, дарэчы, складзеную) праграму па эстэтычным выхаванні землякоў, наладзіўшы сістэматычныя асветніцкія гутаркі пра музыку, пра выяўленчае мастацтва для розных груп насельніцтва. (Заўважу, што элементарная непадрыхтаванасць, нават нявыхаванасць многіх людзей, якія апынуліся ў зале, былі дысанансам на свяце). Бліжэйшыя планы? Канцэрт славутага хору пад кіраўніцтвам У. Мініна, падрыхтоўка выстаўкі работ М. Сілівановіча, большасць з якіх захоўваецца ў Літве...

Імя акадэміка Сілівановіча—пэўны аванс на будучае. Можна сабе ўявіць, як нялёгка давядзецца В. Цітовіч і яе паплечнікам: стварыць і падтрымліваць «экалагічны баланс» новага дома, зрабіць усё, каб найхутчэй адчулі і прынялі землякі каштоўнасць свайго набытку. Дома мастацтваў — сапраўднага падарунка лёсу! Але без разумення і дапамогі кіраўнікоў Вілейшчыны, без падтрымкі з боку рэспубліканскіх органаў культуры гаспадарам Дома мастацтваў імя Сілівановіча будзе цяжэй утрая.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Вілейка — Мінск.



 

*Думка чытача*

# «Прэстыж роднай мовы»

**Не так даўно ў друку былі апублікаваны «Асноўныя мерапрыемствы па далейшаму развіццю народнай асветы ў Беларускай ССР». А яшчэ раней было надрукавана інтэрв'ю карэспандэнта БЕЛТА з першым намеснікам міністра народнай асветы БССР Л. К. Сухнат. Пацверджана, што ў рэспубліцы нямала робіцца для выпраўлення моўнай сітуацыі, для адраджэння роднай мовы і культуры. Тым не менш, чытачы па-ранейшаму пішуць у рэдакцыю аб тым, што не ўсё ў гэтым кірунку робіцца так, як след. Пра гэта сведчыць і частка лімаўскай пошты, якую мы змяшчаем сёння.**

●

Для таго, каб выпускнікі школы аднолькава добра валодалі і беларускай, і рускай мовамі, як аб гэтым гаварыў сакратар ЦК КПБ тав. Я. Я. Сакалоў, патрэбны кардынальныя меры.

Мы прапануем некаторыя мерапрыемствы, якія, на наш погляд, садзейнічалі б больш поўнаму вырашэнню гэтай праблемы.

Выхаванне ў дзіцячых садзіках ажыццяўляць на беларускай і рускай мовах, адводзячы для гэтага на кожную з моў роўную колькасць часу.

Ураўняць у вучэбных планах беларускіх і рускіх школ колькасць гадзін, што адводзяцца на вывучэнне беларускай і рускай мовы і літаратуры, бо існуючы вучэбны план ставіць беларускую мову ў нераўнапраўнае становішча. Так, на вывучэнне беларускай мовы і літаратуры нават у беларускамоўнай школе ў сёмым класе адводзіцца толькі тры гадзіны ў тыдзень, у рускай жа — пяць, у дзесятым класе адпаведна дзве і чатыры.

Мы прапануем Міністэрству асветы сумесна з аддзеламі асветы, педагагічнымі калектывамі, у цесным кантакце з партыйнымі і савецкімі органамі правесці ў бягучым навучальным годзе адпаведную работу з тым, каб ужо з пачатку 1989/90 навучальнага года адкрыць у кожным горадзе (у гарадах з раённым дзяленнем — у кожным раёне) не менш чым адну беларускамоўную школу. У далейшым, да канца бягучай пяцігодкі колькасць гарадскіх школ з беларускай і рускай мовай навучання павінна стаць прыкладна роўнай. Неабходна таксама зноў перавесці на беларускую мову навучання тыя сельскія школы, якія ў апошнія 15—20 гадоў сталі рускамоўнымі.

За бліжэйшыя тры-чатыры гады перавесці на беларускую мову навучання педагагічныя, культурна-асветныя, мастацкія, музычныя, сельскагаспадарчыя і медыцынскія вышэйшыя навучальныя ўстановы, тэхнікумы і вучылішчы.

І апошняе. Мы супраць надбаўкі да зарплаты настаўнікам рускай мовы ў нашай рэспубліцы.

**Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры Пружанскага раёна — І. ЗДАНОВІЧ, К. ЖЫТНО, А. СУПРУНОВІЧ і яшчэ 22 подпісы.**

●

Калі праца ў напрамку павышэння прэстыжу беларускай мовы будзе ісці з такім імпэтам, як у Міністэрстве асветы БССР, то праз пятнаццаць-дваццаць гадоў ужо не будзе аб чым і спрачацца. Пры такой абыякавасці і заспакоенасці нічога не зрушыцца з месца. Пакуль што па-ранейшаму ідзе звужэнне сферы беларускай мовы пад акампанемент дэкларацый любові да фальклору, культуры, звычаяў. Але... без мовы. 113 чалавек з 25000 бацькоў першакласнікаў падалі заявы ў класы з беларускай мовай навучання. Прапорцыя, па сутнасці, жудасная, нечаканай яе не назавеш. Сталінскія выхаваўчыя меры і пазнейшая культурная палітыка прывілі народу ўтылітарнае разуменне ролі культуры і мовы, амаль пазбавілі людзей гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці. А міністр выказвае меланхалічны жаль і толькі. Мабыць, цалкам верагодна, што супрацоўнікаў Міністэрства асветы сярод тых 113 бацькоў не было. Бо яны, таварышы з міністэрства, робяць выгляд, што ім трэба ўсё пачынаць з нуля, што нічагуткі ў іх няма: ані падручнікаў, ані добрай літаратуры, ані настаўнікаў. І пакуль яны будуць дружным гуртам ствараць чарговую інструкцыю, тыя 113 чалавек ставяць у выключнае становішча сваіх дзяцей, каб падтрымаць ідэю адраджэння нашай мовы і культуры. Але хіба справа толькі ў стварэнні такіх класаў? У адказах міністра ёсць звесткі аб скарачэнні беларускамоўных школ за 25 год (1953—1988 гг.), але свядома замоўчана асаблівая актыўнасць у гэтым напрамку, штоназіралася ў недалёкія 60—70-я гады. Тады гэта справа ішла вельмі імкліва і без якіх-небудзь узгадненняў з грамадствам. Сёння ў Гродзенскай вобласці сто восемдзесят адна рускамоўная школа мае больш за 113000 вучняў, а каля шасцісот беларускіх —48311 вучняў (у працэнтнай прапорцыі семдзесят да трыццаці). Красамоўная ілюстрацыя! Але нават у так званых беларускіх школах амаль няма прадметнага выкладання на беларускай мове. Дык зрабіце, таварышы асветнікі, сапраўды беларускімі хаця б тыя школы, якія вы імянуеце беларускімі.

**Аркадзь ЖУКОЎСКІ, інжынер.**

г. Гродна.

●

Праблема жыцця беларускай мовы, існавання беларускай нацыі патрабуе неадкладнага вырашэння, але пачынаць трэба не са школы, а разам са школай, бо не толькі школа вінавата ў трагічным стане беларускай мовы. Ці ж вучні вінаваты, што хутка ім будуць наймаць трактарыста ў якасці настаўніка беларускай мовы і літаратуры, бо ён хоць рускія словы вымаўляе па-беларуску? Або настаўнік школы вінаваты, што ён, з вышэйшай адукацыяй, — неравучаны? А можа, настаўнікі вінаваты, што школа стаіць на задворках грамадства?

Жабракамі настаўнік і школа сталі не па сваёй ахвоце. Таму і буксуе школьная рэформа. Таму і мужчын у школе, як на твары вачэй. Трэба пачынаць перш за ўсё з выпрацоўкі грамадзянскай пазіцыі, з развіцця пачуцця нацыянальнай годнасці і самасвядомасці беларуса ў кіраўніцтве народнай асветы БССР. Беларуская мова павінна стаць дзяржаўнай мовай БССР. Уся дакументацыя — на беларускай мове. Усе ўстановы — на беларускай мове. Беларускае і рускае аддзяленні філфака педінстытутаў, універсітэтаў аб'яднаць (няма чаго сеяць «варожасць» між беларусамі аднаго і другога аддзяленняў), увесці на філфаку вывучэнне адной з моў братніх сацыялістычных краін — балгарскай, польскай ці чэшскай. Ведаючы мовы братніх славянскіх краін, можна ацаніць і намеціць шляхі развіцця роднай мовы беларускага народа. Тады і ў сярэдняй школе дзесяцікласнікі будуць здаваць экзамен па беларускай літаратуры пісьмова (сачыненне), а па рускай літаратуры — вусна. Але гэта мары. А зараз... Хто пойдзе ў краму купляць НЕПАТРЭБНУЮ рэч? Спасылкі першага намесніка міністра народнай асветы БССР на меры, прынятыя ўжо па адраджэнні беларускай мовы ў рэспубліцы, на тое, што сёлета «ўсе жадаючыя атрымаюць магчымасць вучыць дзяцей на роднай мове», нагадваюць продаж-куплю ў краме на развес беларускай зямлі самому ж беларусу. Ці ж пойдзе беларус яе купляць, калі яна яму належыць ПА ПРАВУ?

Перабудова зараз — гэта рэвалюцыя. Рэвалюцыя, ва ўсім жыцці. Значыць, яна павінна быць і ў народнай асвеце.

**Вольга МАЛІНІЧ, настаўніца бел. мовы і літаратуры Сідаравіцкай СШ Магілёўскага раёна.**

ТЭЛЕБАЧАННЕ

# ВЯРТАННЕ ДА ВЫТОКАЎ

У адным са здымачных павільёнаў студыі тэлебачання быццам трапляеш у вёску. Не ў сённяшнюю і не ў даўнейшую, а ў тую нядаўнюю вёску шасцідзесятых гадоў, дзе яшчэ так часта і балюча нагадвала аб сабе вайна — нагадвала скалечанымі лёсамі, ранамі і цяжкімі падчас невырашальнымі праблемамі.

У павільёне здымаецца тэлеспектакль па рамане І. Пташнікава «Алімпіяда», які мае, як вядома, падзагаловак — «Воблакі шасцідзесятых». Ставіць тэлеспектакль па ўласным сцэнарыі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР А. Гутковіч (мастак В. Казлоў, аператары С. Родкін і У. Хромаў).

— Мяне,—гаворыць А. Гутковіч, — заўсёды вабіла літаратура буйных сацыяльных праблем і вялікіх чалавечых страсцей. Так было, калі ставіў «Трэцяе пакаленне» Кузьмы Чорнага, «Людзей на балоце» Івана Мележа, «Трывожнае шчасце» Івана Шамякіна, «Чужую бацькаўшчыну» Вячаслава Адамчыка... Калі ж гаварыць пра «Алімпіяду» Івана Пташнікава, дык, на маю думку, гэта самы значны пасля «Людзей на балоце» твор сучаснай літаратуры, у якім бы так паслядоўна, глыбока, змястоўна раскрывалася жыццё беларускага народа на адным з самых складаных этапаў яго гісторыі.

Сёння мы шмат гаворым і пішам аб «белых плямах» у гісторыі, праглядаем шмат якія яе старонкі. Але нельга забываць і на іншае: высокі маральны патэнцыял народа, яго працавітасць, адданасць зямлі. З жаданнем праз апантанасць у працы, у штодзённых клопатах такіх людзей, як Алімпіяда, паказаць важны пласт народнага жыцця, я браўся за напісанне сцэнарыя і за пастаноўку тэлеспектакля, які хочацца вырашыць у жанры народнай драмы...

Алімпіяда... На яе ролю запрошана заслужаная артыстка рэспублікі Т. Мархель. Актрыса гаворыць:

— Дакрананне да прозы Івана Пташнікава стала для мяне сапраўдным святам душы. Адразу ж, ледзь перагарнула першыя старонкі яго цудоўнага рамана, апынулася ў стыхіі блізкай, знаёмай з маленства. Мы ж з Іванам Мікалаевічам па сутнасці землякі: ён з Лагойскага (былога Плешчаніцкага) раёна, я са Смалявіцкага. Наколькі ведаю, вобраз Алімпіяды ён пісаў са сваёй маці. Я ж у Алімпіядзе пазнаю сваю маму, якой таксама хапіла гора. Колькі такіх Алімпіяд на нашай шматпакутнай беларускай зямлі! У Пташнікава ўсё ад жыцця, якое ён ведае дасканала, яго героі жывыя, паўнакроўныя людзі, яркія характары. Усё ў яго зрокава, асязальна. Ён піша так, што чуеш усе пахі зямлі, бачыш усе колеры і адценні.. — Памаўчаўшы, дадае: — Працуючы над гэтай роляй, імкнуся да аднаго — праўдзівасці. Сённяшняя вёска ўжо не тая, што была раней, многае беззваротна страчваецца. Вяртацца ж да народных вытокаў трэба— каб не растраціць духоўнасці і душэўнасці, каб захаваць сваё роднае, нацыянальнае. Мову, культуру...



Выканаўца галоўнай ролі Т. МАРХЕЛЬ.

У іншых ролях заняты народны артыст СССР Ф. Шмакаў, народныя артысты рэспублікі З. Канапелька, Л. Давідовіч, М. Захарэвіч, Г. Аўсяннікаў, П. Кармунін, М. Бялінская, заслужаныя артысты Г. Арлова, А. Дзянісаў, П. Дубашынскі, А. Ткачонак... Прыцягнуў да работы А. Гутковіч і маладых выканаўцаў, тых, каго гледачы ўжо добра ведаюць па купалаўскай сцэне, — З. Белахвосцік, А. Гарцуева, Я. Нікіціна, В. Манаева...

Здымкі працягваюцца. Пройдзе колькі часу, і мы сустрэнемся з «Алімпіядай» на тэлеэкране.

**А. ВІШНЕЎСКІ.**




Рэжысёр-пастаноўшчык А. ГУТКОВІЧ і аператар У. ХРОМАЎ.
Фота Ул. КРУКА.

ВЫСТАЎКІ

# МАСТАЦТВА, ЯКОЕ ЗВЕРНУТА ДА ЛЮДЗЕЙ

Калі мастак здолеў данесці перажытае ім пачуццё да гледача, пераўтварыць яго ў мастацкі твор, тады і адбываецца вялікі цуд мастацтва — цуд эмацыянальнай усхваляванасці і суперажывання. Менавіта такое адкрытае, тонкае і сапраўднае пачуццё жыве ў творах гродзенскага скульптара У. Церабуна, якія мы ўбачылі на яго персанальнай выстаўцы. Настрой гэтых твораў народжаны рознымі пачуццямі — ад узнёслай і бесклапотнай радасці да задуменнай самапаглыбленасці і горкага няўцешнага смутку.

Значнае месца ў творчасці мастака займае тэма вайны. Можна сказаць, што ў Церабуна яна падкрэслена прызямленая, а дакладней, прыведзеная ў такі стан, калі яна становіцца зразумелай і блізкай кожнаму чалавеку. Гэта ў аднолькавай ступені датычыцца і буйнага мемарыяльнага ансамбля «Дальва», і маленькай скульптурнай кампазіцыі «Зноў пра вайну». Адна з характэрных асаблівасцей аўтарскай трактоўкі тэмы — уменне ў звычайным і непрыкметным паказаць велічнае і трагічнае, у трагедыі аднаго чалавека ўбачыць трагедыю ўсяго чалавецтва — адна завершаная думка, якая ўвасоблена ў матэрыяле лаканічна і ў той жа час канкрэтна, ператвараецца ў аўтара ў эпічна маштабны твор.

Трагедыя знішчанай вёсні паўстае перад намі ў фігуры забітай у час уборкі ўраджаю жанчыны («Апошняе жніво»), дзе ўражвае ненармальнасць той сітуацыі, якая ўзнікла на фоне мірнай сельскай працы. Грубая матэрыяльнасць жаночай фігуры ў другой кампазіцыі («Дарогамі вайны») напаўняе сэрца крыўдаю і болем за скалечаныя і пераламаныя лёсы людзей. Тыя ж пачуцці нараджае маленькая фігурка схуднелага хлопчыка, у звычайнай дзіцячай гульні якога з усёй сілай адбіваецца вялікая трагедыя вайны («Гульня»).

Эмацыянальнай выразнасці твораў скульптар дасягае ў многім дзякуючы неадназначнасці трактоўкі тэмы, спалучэнню розных адценняў пачуццяў — да кожнага твора ён падыходзіць як да пэўнай жыццёвай сітуацыі. Кампазіцыя «Непераможныя» пазбаўлена традыцыйнай прамалінейнасці ў адлюстраванні воінаў-пераможцаў. Рама вагоннага праёма фарміруе мікраасяроддзе кампазіцыі, у якой адсутнічае дзеянне, падкрэслівае суровую штодзённасць абставін, якой адпавядае і настрой салдат. І ў гэтай атмасферы нараджаецца адчуванне ўнутранай сілы, нічым, здаецца, не выдатных людзей, якія паглыблены ў свой невясёлы роздум. І невыпадкова твор названы менавіта так — «Непераможныя».

Бясконцую разнастайнасць складаных ракурсаў, якія дэманструюць пластычныя магчымасці чалавечага цела, паказаў аўтар у графічных штудыях. І тут жа мы бачым, як у скульптурных фігурах гэта пластыка цел становіцца сродкам выяўлення пэўнага эмацыянальнага стану, пластычная выразнасць пераўтвараецца ў выразнасць эмацыянальную. «Радасць», «Смутак», «Бераг», «Флора», «Пачатак», «Ноч», «Асенняя песня» — у гэтых вобразах вар'іруюцца тонкія адценні чалавечай душы.

Паказальна, што эмацыянальным цэнтрам экспазіцыі стала кампазіцыя «Рэха», якую можна разглядаць як метафару ўсёй творчасці мастака — ў гэтым паэтычным вобразе ўвасоблена накіраванасць яе да людскіх сэрцаў, патрэба знайсці ў іх водгук.

**Ала ШАМРУК.**

Іван ЛАСКОЎ

# ЯК ЯНА ПАЧЫНАЛАСЯ

**Роздум над раманам аб вайне**

Я НЕ ГІСТОРЫК. Ні ваенны гісторык, ні наогул. I на вайне не быў. Я нават зусім не памятаю яе: нарадзіўся за тры дні да 22 чэрвеня.

Але, можа, менавіта таму, што нарадзіўся за тры дні да вайны, так і мкнецца думка ў той чэрвень—незагойную нашу агульную рану.

Заплюшчваю вочы і чую, як над вяршынямі соснаў і бяроз са злавесным выццём ляцяць самалёты — на Кіеў, Каўнас, Севастопаль. На Мінск. На Гомель, дзе я — тады трохдзённы — можа, спаў, а можа, плакаў у сваёй калысцы.

Заплюшчваю вочы і бачу, быццам у кашмарным мультфільме, як карычневая муць залівае карту маёй краіны, страшнымі языкамі рвецца за Мінск, Гомель, Смаленск — да Масквы. Чаму так хутка? Чаму несупынена?

Гэтае пытанне пакутлівае не толькі для мяне. Тысячы і тысячы і сёння шукаюць на яго адказу.

Як проста было ў школьныя гады, калі нас вучылі: «Ваенныя няўдачы першага перыяду вайны тлумачацца тым, што гітлераўская Германія нечакана і вераломна парушыла пакт аб ненападзе, заключаны ў 1939 годзе паміж ёй і СССР».

Потым, калі школа засталася ззаду, раптам усплыло імя Рыхарда Зорге. Яно прыйшло да нас з-за мяжы, разам з фільмам «Хто вы, доктар Зорге?». Прыйшло, пасеяўшы збянтэжанасць у такіх спакойных дагэтуль галовах. Значыць, вайна не была нечаканай? Ведаў бацька народаў, што яна пачнецца,і нават ведаў, калі, у які дзень? Тады чаму ворагу не быў дадзены адпор з першай мінуты? Чаму перамога, якую было паабяцана здабыць малою крывёю, аказалася піравай — цаною больш чым дваццаці мільёнаў?

Друк у тыя дні даваў такі адказ: «І. В. Сталін унёс сур'ёзны ўклад у справу абароны краіны і барацьбы з фашызмам. Аднак напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ён няправільна ацэньваў міжнароднае становішча. Перабольшваючы значэнне савецка-германскага дагавора аб ненападзе, І. В. Сталін не верыў звесткам аб прамой падрыхтоўцы ўварвання нямецка-фашысцкіх войск на тэрыторыю СССР. Ён адпрэчваў усе прапановы аб неабходнасці прывядзення савецкіх войск прыгранічных акруг у баявую гатоўнасць. Гэта стала адной з прычын таго, што для савецкіх войск у заходніх раёнах напад гітлераўскіх армій аказаўся нечаканым» (ВСЭ, выд. 2-е, т. 40, стар. 423. Том падпісаны да друку 20 лістапада 1957 г.).

Значыць, справа зноў амаль праяснілася. Аказваецца, правадыр празмерна давяраўся заключанаму ім пакту. Заставалася высвятляць, чаму: па дурноце ці па прычыне асаблівай сімпатыі да Гітлера. Мы, тымчасовая моладзь, дружна парашылі: па дурноце. Мы маглі дапусціць, што наш нядаўна развянчаны бог быў дурнем. Што ён меў сімпатыі да Гітлера — ніколі і нізавошта!

Ды вось пайшоў са свайго паста, з ярлыком валюнтарыста, аўтар гэтай версіі, і неўзабаве ўзнікла новая. I па ёй былы бацька народаў зноў аказаўся ім жа, «бацькам». Ён, вядома, ведаў, што вайны не пазбегнуць. Але страшны, вельмі небяспечны быў вораг, а наша краіна да барацьбы з ім такая не гатовая! Трэба было скончыць падрыхтоўку, перш чым ваяваць. Спачатку вайну ўдалося адцягнуць: дзякуючы пакту —на паўтара года. Але вось вораг зноў разгарнуўся тварам да нашай граніцы. Заставалася адно: не даваць падстаў для вайны. Прымаць «усе меры, каб на граніцы было спакойна, нягледзячы на правакацыі і на тое, што па той бок канцэнтруюцца войскі». Карацей кажучы, вытрываць усе ўніжэнні, толькі б вораг не напаў зараз. Хай праз год нападзе. Вось тады мы яму!.. А цяпер нельга. Шмат крыві пральецца.

Але подлы вораг парушыў дагавор, раней выступіў, чым спадзяваўся мудры бацька народаў. Толькі ў гэтым ягоная віна: пралічыўся ў вызначэнні даты. Але з самых лепшых памкненняў!..

Аўтар гэтай версіі — і гісторык па адукацыі, і пісьменнік па родзе заняткаў, і ваяваў. Баявы афіцэр. Чаму ж яму не верыць? I многія паверылі. Тым больш, што раман выдаецца і раз, і другі, і трэці, адзначаецца Дзяржаўнай прэміяй. Як не паверыць, калі, мяркуючы па хвалебных рэцэнзіях, аўтар з усімі маршаламі знаёмы, а то і з Молатавым, самім! Чэрпае праўду-матку з першых рук!

А вось мне —не паверылася. Не паверылася ў мудрасць пасля праўды пра генетыка-кібернетыка, у бацькоўскія пачуцці — пасля праўды пра 33-ці. Хутчэй у дурноту паверу, чым у гэта...

Ды адно — не верыць у чыюсьці правату, а другое — быць у няправаце яго перакананым. Якое, уласна, права ў мяне? Хіба я ваяваў, з маршаламі знаёмы? Не, з ніводным генералам нават...

Але ёсць, на шчасце, сведкі, аднолькава даступныя мне і яму. Якім не пагражае склероз. Якія не гавораць учора адно, сёння іншае. Сведкі гэтыя — газеты свайго часу. У іх, вядома, не поўная праўда, і нават не палова праўды, але хоць чвэрць праўды ў іх ёсць? Да гэтых сведак я і наважыўся пайсці для высвятлення спрэчак.

Перш за ўсё — пра версію 1957 года. Яна памылковая. Не мог Сталін перабольшваць «значэнне савецка-германскага дагавора». Ніяк не мог. Цану такіх дагавораў ён ведаў. Перад тым, як напасці на Польшчу, Гітлер парваў такі ж самы дагавор. У СССР падобныя дагаворы былі з Польшчай і Фінляндыяй. Ні той, ні другі Сталіна не спыніў.

Характэрна, якая была знойдзена падстава, каб парваць дагавор з Фінляндыяй. На савецкім баку паблізу фінскай граніцы ўпала сем снарадаў. Ні больш ні менш. У сувязі з гэтым Молатаў накіраваў ноту. У ёй патрабавалася адвесці на дваццаць пяць кіламетраў ад граніцы фінскія войскі. У адказ фіны паведамілі, што правялі расследаванне і высветлілі: снарады прыляцелі ва ўказанае месца не з фінскага, а з савецкага боку. Выказалі асцярожнае меркаванне: ці не ў выніку нейкіх няўдачных вучэнняў прыляцелі гэтыя снарады? Падкрэслілі, што ля граніцы не трымаюць дальнабойных гармат, каб іх снарады маглі легчы па другі бок мяжы. Прапанавалі стварыць сумесную камісію. «Ах, нахабнікі! Здзекуюцца з ахвяр абстрэлу!» — абурыўся савецкі бок. I тут жа дэнансіраваў дагавор.

Пасля былі пасланы войскі. «Вызвалілі» гарадок Тэрыёкі. Тут жа невядома адкуль паявіўся новы фінскі ўрад з О. Куусіненам на чале (будучы сакратар і член прэзідыума ЦК КПСС). Заключылі з ім новы «савецка-фінскі дагавор», у адпаведнасці з якім правялі на карце новую граніцу з Фінляндыяй. А калі Ліга нацый спытала, чаму гэта СССР, член гэтай Лігі, ваюе супраць другога яе члена, адказалі: мы ў стане вайны з Фінляндыяй не знаходзімся. Адно аказваем дапамогу законнаму ўраду, па яго просьбе...

Так гэта было, і калі хто не верыць, хай звернецца да «Правды» ці «Известий» канца лістапада — пачатку снежня 1939 года.

Не, «перабольшванне значэння» не праходзіць. Чалавек, які сам такім чынам абыходзіўся з пактамі аб ненападзе, верыць у іх магічную сілу не мог...

Ну, а версія раманіста? Пра яе гаворка доўгая — уся яна наперадзе.

Ёсць у рамане такі эпізод. 21 чэрвеня, вечар. Цімашэнка, Жукаў і Ватуцін прыходзяць да Сталіна і паведамляюць, што з нямецкага боку прыйшоў перабежчык, які сцвярджае, што заўтра пачнецца вайна. У тым, што вайна будзе, вайскоўцы перакананы. Яны падрыхтавалі ўжо дырэктыву аб прывядзенні войск у баявую гатоўнасць. Жукаў чытае дырэктыву ў прысутнасці членаў палітбюро. Усе згодны, што дырэктыва неабходная. Сталін — таксама. Але тут жа гаворыць: «Такую дырэктыву зараз даваць ранавата, можа, пытанне яшчэ ўдасца ўладзіць мірным шляхам. Трэба даць кароткую дырэктыву, у якой указаць, што напад можа пачацца з правакацыйных дзеянняў нямецкіх часцей. Войскі пагранічных акруг не павінны паддавацца ні на якія правакацыі, каб не выклікаць ускладненняў». Такая ўсечаная дырэктыва і пасылаецца ў рамане ў акругі.

Не сумняваюся, што так было і ў сапраўднасці. Гэта, у прыватнасці, пацвярджаюць успаміны маршала Жукава.

Чым жа вытлумачвае такі страх Сталіна перад будучай вайной раманіст? «А да вайны ў нас яшчэ не ўсё гатова», — гаворыць Сталін Молатаву. «А калі мы не гатовы да вайны, значыць, трэба як мага далей трымаць сябе так, каб у Гітлера былі звязаны рукі...»

Ну што вы, шаноўны раманіст! Гэта мы цяпер з вамі ведаем, што не былі гатовы да вайны. Таму ведаем, што немцы дайшлі да Масквы і Волгі. Але ж Сталін не мог ведаць напярэдадні вайны, што яны дойдуць да Масквы і Волгі! I, ацэньваючы шанцы свае і Гітлера, зыходзіў не з таго, што адбылося **пасля пачатку** вайны, а з таго, што ведаў **да вайны**.

Што ён ведаў пра ўласныя сілы? 9 лютага 1946 года ў перадвыбарчай прамове, прысвечанай вынікам вайны, Сталін гаварыў:

«Каб прыняць удар такога ворага, даць яму адпор, а пасля нанесці яму поўнае паражэнне, для гэтага неабходна было мець, акрамя бяспрыкладнай храбрасці нашых войск, зусім сучаснае ўзбраенне і прытым у дастатковай колькасці, і добра наладжанае забеспячэнне—таксама ў дастатковых памерах. Але для гэтага неабходна было мець і прытым у дастатковай колькасці такія элементарныя рэчы, як: **металл** — для вытворчасці ўзбраення, рыштунку, абсталявання прадпрыемстваў; **паліва** — для падтрымання работы прадпрыемстваў і транспарта; **бавоўна**—для вытворчасці абмундзіравання; **хлеб**—для забеспячэння арміі.

Ці можна сцвярджаць, што перад уступленнем у другую сусветную вайну наша краіна мела мінімальна абавязковыя матэрыяльныя магчымасці, неабходныя для таго, каб задаволіць гэтыя патрэбы? **Я думаю, што можна сцвярджаць»** (падкрэслена мною. — **І. Л.**).

Значыць, у раманіста Сталін гаворыць — краіна да вайны не гатова; рэальны Сталін сказаў — была гатова. Які ж Сталін больш шчыры? Думаецца, рэальны. Не толькі таму, што Сталін у раманіста — плён яго мастацкага ўяўлення, а яшчэ і таму, што ў яго Сталін ніяк негатоўнасць не аргументуе, рэальны ж гатоўнасць абгрунтоўваў:

«Што тычыцца 1940 года, дык на працягу гэтага года ў нашай краіне атрымана: 15 мільёнаў тон **чыгуну,** г. зн. амаль у чатыры разы больш, чым у 1913 годзе; 18 мільёнаў 300 тысяч тон **сталі,** г. зн. у 4 з паловай разы больш, чым у 1913 годзе; 166 мільёнаў тон **вугалю,** г. зн. у 5 з паловай раз больш, чым у 1913 годзе; 31 мільён тон **нафты,** г. зн. у 3 з паловай разы больш, чым у 1913 годзе; 38 мільёнаў 300 тысяч тон **таварнага збожжа,** г. зн. на 17 мільёнаў тон больш, чым у 1913 годзе; 2 мільёны 700 тысяч тон **бавоўны-сырцу,** г. зн. у 3 з паловай разы больш чым у 1913 годзе... Розніца, як бачыце, каласальная».

Ну, а што ён ведаў аб эканоміцы Германіі? Наўрад ці Шцірліцы збіралі аб гэтым звесткі, у іх былі іншыя задачы. Такім чынам, можна меркаваць, што Сталін карыстаўся тымі ж самымі крыніцамі, якімі можам карыстацца і мы — публікацыямі таго часу.

«Германія прайграе» — гаворыць загаловак адной з іх у нумары «Правды» за 26 ліпеня 1939 года. «Пад такім загалоўкам, — паведамляе рэдакцыя, — у ліпеньскім нумары амерыканскага часопіса «Харперс» змешчаны артыкул Вільсана Вудсайда. У гэтым артыкуле аўтар падрабязна аналізуе магчымы зыход «маланкавай вайны» Германіі супраць Англіі і Францыі. Ніжэй даём скарочаны пераклад гэтага артыкула».

Галоўная думка гэтага артыкула: Германія ў 1939 годзе куды горш гатова да вайны, чым у 1914 годзе. Гітлераўцы, пагражаючы суседзям, разлічваюць на «маланкавую вайну». Але вера ў «маланкавую вайну» ілюзорная. Гэтая ілюзія ўжо сыграла згубную ролю для Германіі ў першай сусветнай вайне, такую ж ролю сыграе і цяпер. Германія прайграе.

«Параўнаем на момант сённяшнюю Германію з Германіяй, што ўступіла ў вайну ў жніўні 1914 года. Тая Германія мела выдатную армію, якая стваралася дзесяткі гадоў. Кожны здаровы мужчына ў краіне быў трэніраваным салдатам. Кадры афіцэраў былі ўкамплектаваны зверху да нізу. Гэта давала магчымасць неадкладна выставіць сто першакласных дывізій, а пасля хутка давесці колькасць дывізій да 200... Побач з гэтымі аграмаднымі сухапутнымі сіламі, імператарская Германія мела тады досыць буйны ваенна-марскі флот... Гэтая ваенная машына абапіралася на пачатак вайны на квітнеючую эканоміку, на вялікія запасы сыравіны, на вытворчасць сталі (разам з Аўстра-Венгрыяй), большую, чым у Англіі, Францыі і Расіі ўзятых разам, і мела ўласную руду, на квітнеючы замежны гандаль, буйныя капіталаўкладанні і масу палкіх прыхільнікаў у нейтральных краінах і, нарэшце, на 1 мільярд долараў золата ў ваеннай казне...

Гітлераўская Германія сваёй лютасцю робіць яшчэ больш застрашлівае ўражанне, чым вільгельмаўская, і ў такой ступені, што на першы погляд не відаць, наколькі яна ў сапраўднасці слабейшая ў ваенных адносінах. У арміі назіраецца недахоп афіцэраў усіх рангаў, асабліва ж маёраў, падпалкоўнікаў і палкоўнікаў. Лейтэнанты і капітаны прызначаны з капралаў і сяржантаў пасляваеннага прафесійнага рэйхсвера. Маса рэзервістаў мае толькі шасцітыднёвую падрыхтоўку, 17 кантынгентаў ва ўзросце ад 24 да 41 года большай часткаю — неабучаныя. Па падліках германскіх улад, у сувязі з больш высокімі патрабаваннямі, якія сучасная вайна вымагае ад прамысловасці, Германія можа мабілізаваць каля 6 мільёнаў чалавек, замест дзесяці ў мінулую вайну. Замест грознага флоту дрэдноўтаў імперскай Германіі, фашысцкая Германія мае толькі два лінкоры па дваццаць тысяч тон водазмяшчэння...

Эканамічнае становішча і настрой насельніцтва ў Германіі цяпер больш нагадваюць 1917, чым 1914 год. Людзі і машыны працуюць ваеннымі тэмпамі на працягу шэрагу гадоў, першыя —без адпачынку, другія — без замены. Дзяржаўныя чыгункі былі вымушаны скараціць аб'ёмы сваёй работы.., прынамсі, 10% рухомага саставу патрабуе замены.

Становішча на германскім сыравінным рынку, асабліва цяпер, нагадвае 1917 год... Ці можа Германія, якая стаіць перад тварам аграмаднай індустрыяльнай магутнасці Францыі, Англіі, англійскіх дамініёнаў, Расіі, а магчыма, і ЗША, дазволіць сабе выдзеліць 500 тысяч людзей — 15 армейскіх карпусоў, — якія патрэбны будуць толькі для вытворчасці заменнікаў бензіна і нафты, неабходных для вядзення вялікай вайны?

...Германская ваенная прамысловасць зараз фактычна базіруецца на шведскай рудзе, якой пакрываецца амаль палова спажывання. У час сусветнай вайны Швецыя прадавала Германіі руду і іншыя прадметы забеспячэння, пакуль Германія мела золата... Абяцанні — гэта ўсё, што можа Германія прапанаваць цяпер. Яе фінансавае становішча гэтак жа, як і ўнутранае, нагадвае 1917 год...

Калі пачнецца вайна, фашыстаў будзе больш за ўсё непакоіць не тэхніка і не забеспячэнне, а настрой насельніцтва. Нездарма карыстаецца фашысцкі рэжым шырока вядомай сістэмай тайнай паліцыі, канцэнтрацыйных лагераў. Германскі народ ужо не той, што ў 1914 годзе. Мільёны людзей у Германіі ненавідзяць фашысцкі рэжым. **Цяперашняе насельніцтва Германіі нельга павесці на вайну, асабліва на вайну, якая вядзецца не дзеля абсалютнай самаабароны.** Ці можа Гітлер быць настолькі недасведчаны аб гэтых настроях свайго народа, **што робяць небяспечнай для яго любую вайну, якую германскі народ палічыць ненавязанай»** (падкрэслена мною. — **І. Л.**).

Ці чытаў Сталін гэты артыкул? Можна не сумнявацца:

 

чытаў, і вельмі ўважліва. Узяць, напрыклад, сцвярджэнне, быццам Германія можа мабілізаваць у армію толькі каля 6 мільёнаў чалавек. Сталін моцна памятаў аб ім. 7 лістапада 1941 года на Краснай плошчы ён гаварыў: «За чатыры месяцы вайны Германія страціла 4 з паловай мільёны салдат, Германія сцякае крывёю, яе людскія рэзервы канчаюцца». Хіба не гучыць у гэтых словах упэўненасць, што людскія рэзервы ворага складаюць менавіта гэтыя шэсць мільёнаў?

Але асабліва блізка прыняў Сталін той абзац артыкула, дзе гаворыцца аб унутраным становішчы Германіі, аб тым, што гэтае становішча робіць для Гітлера небяспечнай «любую вайну, якую германскі народ палічыць ненавязанай». У выступленні 3 ліпеня 1941 года Сталін гаварыў: «У гэтай вызваленчай вайне мы не будзем адзінокія. У гэтай вялікай вайне мы будзем мець верных саюзнікаў у асобе народаў Еўропы і Амерыкі, у тым ліку ў асобе германскага народа, прыгнечанага гітлераўскімі заправіламі». Яшчэ больш падрабязна на гэтую тэму гаварыў ён у дакладзе 6 лістапада 1941 года, калі, па ягоных разліках, народ Германіі павінен ужо быць гатовым да паўстання: «... Пасля таго, як... гітлераўцы сталі на шлях імперыялізму, на шлях захопу чужых земляў і заняволення чужых народаў, ператварыўшы народы Еўропы і народы СССР у заклятых ворагаў сённяшняй Германіі, — у германскім народзе адбыўся глыбокі пералом супраць працягу вайны, за ліквідацыю вайны, канца якой яшчэ не відаць; мільёны чалавечых ахвяр; голад; галеча; эпідэміі; вакол варожая немцам атмасфера; неразумная палітыка Гітлера, які ператварыў народ СССР у заклятых ворагаў сённяшняй Германіі,—усё гэта не магло не павярнуць германскі народ супраць непатрэбнай і спусташальнай вайны. Толькі гітлераўскія прыдуркі не могуць зразумець, што не толькі еўрапейскі тыл, але і германскі тыл нямецкіх войск уяўляе вулкан, які гатовы выбухнуць і пахаваць гітлераўскіх авантурыстаў». Такое было пераканане нашага «генія», выкліканае... амерыканскім журналістам.

Дык вось, у СССР вытворчасць металу, паліва, збожжа, бавоўны да 1940 года ў параўнанні з 1913 вырасла што ў тры, што ў пяць разоў, Германія ж сваё становішча ў параўнанні з даваенным пагоршыла: горш стала з сыравінай, фінансамі, людскімі рэзервамі арміі, паявілася ўнутраная апазіцыя, здольная ператварыць тыл нямецкіх войск у «вулкан, гатовы выбухнуць і пахаваць». Што яшчэ ведаў Сталін? Што ў яго краіне з 1913 года насельніцтва павялічылася на 60 мільёнаў, колькасць жа немцаў практычна не павялічылася; што ў яго гіганцкай краіне адступаць можна амаль бясконца. Гітлеру ж адступаць няма куды; што ў яго краіне ёсць і руда, і нафта, і бавоўна, а ў Германіі руды не хапае — даводзіцца купляць, нафты і бавоўны няма зусім; што ў яго, у Сталіна, у тыле не можа быць варожага фронту — усе ворагі даўно знішчаны, нават і звыш неабходнага... І калі ўжо ў першую сусветную Расія ваявала з Германіяй на роўных, дык цяпер на чыім баку рашаючая перавага? Чаго баяцца?

Ён і не баяўся. Раманіст з гэтым яўна дапускае нацяжку. Успамінае трыццаць восьмы год, напрыклад, а належных высноў не робіць. Што ў 1938 годзе адбывалася, я нагадаю не па рамане, а па больш сур'ёзнай крыніцы. Пачытайце другое выданне ВСЭ, т. 12, стар. 338 (том падпісаны да друку 28.V.1952 г.): «У 1938, па даручэнні І. В. Сталіна, Готвальд перадаў прэзідэнту Чэхаславакіі Э. Бенешу паведамленне аб гатоўнасці Савецкага Саюза аказаць Чэхаславакіі ваенную дапамогу для абароны яе ад гітлераўскай агрэсіі нават у тым выпадку, калі гэтага не зробіць Францыя, што, у адпаведнасці з савецка-чэхаславацкім дагаворам 1935 года аб узаемадапамозе, было ўмовай савецкай дапамогі, і нават у тым выпадку, калі тымчасовая панская Польшча ці баярская Румынія адмовяцца прапусціць савецкія войскі». І гэта былі не пустыя словы, сам раманіст піша, што «ўжо былі згрупаваны на Украіне сілы, каб кінуць іх на дапамогу Чэхаславакіі». Такім чынам, Сталін рваўся ў бойку з Гітлерам, а заадно з Румыніяй і Польшчай — у адзіночку, без саюзнікаў — яшчэ ў 1938 годзе!

Разумеючы, што такая безаглядная хвацкасць з пазнейшай гітлерабоязззю неяк не стасуецца, раманіст на гэтую хвацкасць не націскае. Наадварот, стараецца нават яе прыглушыць. Напрыклад, аб тым, што пры аказанні дапамогі Чэхаславакіі давялося б парушыць граніцы Румыніі і Польшчы, ён і не ўспамінае.

Пакт аб ненападзе пад гітлерабоязь, здавалася б, падвесці прасцей: заключыў таму, што баяўся. Але адкуль узялася такая перамена? Чаму ў 1938 годзе не баяўся, а праз год стаў баяцца? Гэтага раманіст не вытлумачвае.

І як суаднесці з гэтай узніклай гітлерабоязззю такія словы, апублікаваныя ў «Правде» ўсяго за 9 дзён да падпісання пакта, падпісанага нібыта па прычыне боязі:

«Бальшавікі — не пацыфісты. Сапраўдная абарона міру заключаецца не ва ўступках ці патуранні агрэсару, а ў двайным удары на ўдар падпальшчыкаў вайны... Калі фашысцкія агрэсары вымусяць савецкі народ узяцца за зброю, дык вайна Савецкага Саюза супраць іх будзе сапраўды айчыннай вайною... Але весці абарончую вайну зусім не азначае стаць на рубяжах сваёй зямлі. Лепшы від абароны — імклівае наступленне для поўнага знішчэння праціўніка на яго тэрыторыі. Такі асноўны вопыт бальшавіцкай стратэгіі... Знішчыць праціўніка — значыць знішчыць фашызм, падняць супраць яго працоўных, дапамагчы ім у вайне супраць фашызму».

Працытаваная «лекцыя» «Аб войнах справядлівых і несправядлівых» праф. І. Мінца займае ўсю чацвёртую паласу газеты. Вядома, падпісана яна не Сталіным, але такія артыкулы ў такі час не маглі публікавацца, тым больш у «Правде», без ведама Сталіна і яго прагляду. Падвал жа пятай паласы займае заметка «Выкрыты міф». Таксама досыць цікавая. Чым? А тым, што даказвае тое ж самае, што і двайны падвал «Правды» за 26 ліпеня 1939 года — «Германія прайграе».

«Міф аб ваеннай дапамозе Германіі». Пад такім загалоўкам, — пачынаецца заметка, — Гаральд Ласкі публікуе ў «Дэйлі Геральд» падрабязную рэцэнзію на нядаўна выдадзеную кнігу венгерскага вучонага доктара Лайаша «Ваенныя шанцы Германіі». Кніга ўгрунтавана на лічбах».

Да якіх жа высноў прыйшоў доктар Лайаш у сваёй кнізе, забароненай, як сказана ў заметцы, венгерскім урадам па патрабаванні гітлераўцаў?

«Аўтар падлічвае матэрыяльныя магчымасці, якімі валодае Германія на выпадак вайны, і на аснове дакументаваных дадзеных прыходзіць да цвярозага вываду, што Германія гэтую вайну прайграе...

Германія... мае толькі адзін мільён абучаных салдат, у параўнанні з Францыяй, якая мае 5 мільёнаў абучаных салдат. Выключна дрэнныя справы з харчаваннем..., значна горшыя, чым у 1914 годзе. Ваенная прамысловасць Германіі працуе на поўным хаду, але гэтая акалічнасць толькі падрывае агульную эканоміку краіны. Яна выклікае ўсё больш востры недахоп сыравіны. Германіі не хапае нафты... Вельмі не хапае ўсёй германскай прамысловасці чыгуну. Пошукі заменнікаў нафты і высакаякаснай сталі не даюць станоўчых вынікаў. Усё гэта адбіваецца на якасці ў першую чаргу ваенных матэрыялаў; самалётаў, танкаў і г. д. Характэрна, што з усіх дзяржаў толькі Германія не публікуе дадзеных аб сваіх паветраных аварыях... Навейшыя германскія падводныя лодкі маюць сур'ёзныя дэфекты».

Як бачым, ацэнка тая ж самая, што і ў артыкуле «Германія прайграе». Нават канчаецца, па сутнасці, тым жа, хіба што не даслоўна:

«Паліцыі ўсё часцей даводзіцца сутыкацца з такімі з'явамі, як сабатаж і хваляванні. Гімлер — кіраўнік гестапа — аднойчы заявіў, што ў час вайны ў Германіі будзе чацвёрты фронт... Германскі штаб... баіцца народа, які не хоча вайны і настроены супраць вайны».

Не, не пра гітлерабоязь сведчыць гэты слоўны залп, выпушчаны па Германіі «Правдой» 14 жніўня 1939 года! Дык пра што ж? Паспрабуем даць адказ і на гэтае пытанне з дапамогаю старых газет.

«Известия» за 1 верасня 1939 года «Аб ратыфікацыі савецка-германскага дагавора аб ненападзе. Паведамленне тав. Молатава на пасяджэнні Вярхоўнага Савета СССР 31 жніўня 1939 года»:

«Выкрываючы шуміху, паднятую англа-французскай і паўночна-амерыканскай прэсай адносна германскіх «планаў» захопу Савецкай Украіны, т. Сталін гаварыў тады (на XVIII з'ездзе ВКП(б) у сакавіку 1939 г. — **І. Л.**): «Падобна на тое, што гэты падазроны шум меў сваёй мэтай выклікаць гнеў Савецкага Саюза супраць Германіі, атруціць атмасферу і справакаваць канфлікт з Германіяй без відочных на тое падстаў». Як бачыце, т. Сталін біў у самую кропку, выкрываючы прошукі заходнееўрапейскіх палітыкаў, што імкнуцца сутыкнуць ілбамі Германію і Савецкі Саюз.

Трэба прызнаць, што і ў нашай краіне былі паасобныя блізарукія людзі, якія, захапіўшыся спрошчанай антыфашысцкай агітацыяй, забываліся на гэтую правакатарскую работу нашых ворагаў. Тав. Сталін, улічваючы гэтую акалічнасць, яшчэ тады паставіў пытанне аб магчымасці іншых, неварожых, добрасуседскіх адносін паміж Германіяй і СССР.

Цяпер відаць, што ў Германіі ўвогуле правільна зразумелі гэтыя заявы т. Сталіна і зрабілі з гэтага практычныя высновы... Ужо вясной гэтага года германскі ўрад прапанаваў аднавіць гандлёва-крэдытныя перагаворы. Перагаворы былі неўзабаве прадоўжаны. Шляхам узаемных уступак удалося прыйсці да пагаднення. Гэтае пагадненне, як вядома, 19 жніўня было падпісана».

А раманіст піша, быццам немцы ні з таго ні з сяго прыкацілі са сваім пактам ужо тады, калі ішлі англа-франка-савецкія ваенныя перагаворы! Быццам ён і не ў курсе, што першая вуда да стварэння саюза з Германіяй была закінута Сталіным яшчэ ў сакавіку і што ўжо тады гітлераўская кліка «ўвогуле правільна» зразумела яго. Што адначасова з савецка-англа-французскімі ішлі германа-савецкія перагаворы.

Але для чаго гэта было патрэбна?

**(Працяг будзе).**

# Правы ці ўступкі

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3).**

мадзян, якая дасягае вядомай колькасці (напр., 10 000), роўнага права на карыстанне адпаведнай доляй запасаў паперы і адпаведнай колькасцю друкарскай працы». Тут коратка і ясна сказана, што адкуль бярэцца і што за чым ідзе. Яшчэ больш афарыстычна Ленін выказваўся ў іншай рабоце: «...Свабода друку азначае: усе меркаванні ўсіх грамадзян свабодна можна апавяшчаць».

Як і многае іншае, гэтая ідэальная мадэль дэмакратычнай прэсы не была ўвасоблена. Адміністрацыйная Сістэма, кроўна зацікаўленая ў манаполіі на інфармацыю, стварыла уніфікаваны і зручны ў карыстанні набор друкаваных органаў, выдатна адпрацаваўшы «тэхналогію безгалоснасці». Надзелены звышправадзімасцю ў адным напрамку, «зверху — уніз», механізм без асаблівых перабояў працуе і сёння і, як заўважана, найбольш надзейна на перыферыі.

**Прыклады? Вось самы звыклы і досыць бяскрыўдны—дубліраванне публікацый усімі рэспубліканскімі газетамі. Ці спрыяе гэта творчым пошукам рэдакцыйнымі калектывамі свайго, адметнага аблічча; ці апраўдана сёння, калі наўрад ці хто-небудзь абмяжоўваецца адным выданнем?Ці эфектыўныя такія «масіраваныя атакі» на чытача, якому ў адзін дзень тры-чатыры газеты могуць паднесці і па-беларуску і па-руску гутарку з міністрам, няхай сабе і на важную тэму, афіцыйны дакумент па далейшаму развіццю і ўдасканаленню чаго-небудзь альбо, што ўжо зусім незразумела, падмацаваную аўтарытэтам і паўнамоцтвамі БЕЛТА думку таго ці іншага кандыдата гістарычных навук? Хоць, магчыма, гэта і ёсць пашырэнне галоснасці...**

**Але як у такім разе растлумачыць такое вось «звужэнне»... Пасля з'яўлення ў «ЛіМе» артыкула «Курапаты — дарога смерці» была створана ўрадавая камісія па вывучэнню фактаў, выкладзеных у публікацыі. Што і казаць, падзея надзвычайная — урад рэспублікі вельмі аператыўна адгукнуўся на выступленне газеты. І ўсё ж, я дагэтуль не магу зразумець, чаму афіцыйнае паведамленне аб стварэнні камісіі было змешчана толькі ў «Вячэрнім Мінску»?..**

**Яшчэ прыклад. Прывяду ў поўным сэнсе гістарычны дакумент, каштоўны найперш тым, што гэта — след, якіх «сістэма» пакідаць не любіць. Вось што адстукалі тэлетайпы ў сакавіку: «Да ведама рэдакцый. У сувязі з запытаннямі газет аб передруку артыкула Н. Андрэевай «Не магу паступацца прынцыпамі» («Сов. Россия» ад 13 сакавіка г. г.) паведамляем: гэтае пытанне неабходна рашаць па ўзгадненню з мясцовымі партыйнымі органамі. (ТАСС)». Ці трэба каменціраваць такую ненавязлівую «падказку», невялікі эпізод з так званых «трох тыдняў Ніны Андрэевай»? Дык то хоць падказка, а колькі публікацый, санкцыянаваных «тэлефонным правам»...**

БЫЛО б верхам наіўнасці думаць, што канстатаваны партыйнай канферэнцыяй яшчэ не пераадолены дыктат і адміністрацыйнае свавольства, бюракратычная пагарда да грамадскай думкі не распаўсюджваецца на сродкі масавай інфармацыі. Дарэчы, апошнім часам у саюзным друку з'яўляецца нямала прыкладаў некарэктнага ўмяшальніцтва «зверху» ва ўнутраныя справы рэдакцыйных калектываў, паведамляецца і пра крайнія выпадкі — затрымкі нумароў, забароны матэрыялаў. «Канфлікт», які склаўся сёння паміж сродкамі масавай інфармацыі і некаторымі партыйнымі камітэтамі, — гаворыць у інтэрв'ю «Советской культуре» першы сакратар Ленінградскага ГК КПСС А. М. Герасімаў, — адбываецца таму, што адны — партыйныя органы — заседзеліся на старце, а другія—сродкі масавай інфармацыі — пайшлі наперад, пачалі больш востра асвятляць пытанні».

Прыемна чуць такія словы з вуснаў партыйнага работніка, хоць, вядома, лепш прытрымлівацца цвярозай самаацэнкі. Нельга перабольшваць зробленага, бо зроблена яшчэ вельмі мала. Але вось што трывожыць: набыты метадам спроб і памылак, аплачаны «шышкамі» вопыт можа быць перакрэслены, нават палітычна скампраметаваны адным «начальсцвенным» вокрыкам. Здавалася б, выпакутавана ўсімі выснова — ніхто не мае манаполію на ісціну, не павінна быць і манаполіі на галоснасць, — а ўсё адно, журналіст і чыноўнік «дэпартамента друку» (учарашні ці заўтрашні калега), што называецца, выступаюць у розных вагавых катэгорыях.

Так, у грамадстве, дзе адна за другой знікаюць зоны, раней вольныя ад крытыкі, не можа знаходзіцца па-за крытыкай і прэса. Але падкантрольнасць грамадству і бюракратычны дыктат — рэчы не тоесныя. «Ідэалагічная цэнзура патрэбна разгневанаму рабу, — зазначае вядомы савецкі пісьменнік, — свабодных людзей дысцыплінуе ўласнае сумленне».

І справа, думаецца, не ў добрых ці кепскіх чыноўніках. Газеты не могуць далей заставацца чымсьці сярэднім паміж нефармальным аб'яднаннем і ваенізаваным падраздзяленнем. Максімум адказнасці сродкаў масавай інфармацыі вымагае і максімум адпаведных праў. І менавіта праў, а не ўступак, «адпушчаных лейцаў», якія пры жаданні можна і нацягнуць. Друк — самастойная і сур'ёзная сіла, уплыў якой на грамадскія працэсы павінен вызначацца не адлегласцю ад Масквы, а прафесійнасцю, кампетэнтнасцю і пазіцыяй журналістаў, трываласцю іх сувязей з чытачамі.

Апошнім часам з'яўляюцца паведамленні аб тым, што рэдакцыя той ці іншай цэнтральнай газеты абмеркавала праект Закона аб друку. Распрацоўваецца, такім чынам, надзвычай важны для развіцця працэсаў дэмакратызацыі і галоснасці дакумент, які тычыцца не адно толькі прафесіяналаў, работнікаў сродкаў масавай інфармацыі. Па сутнасці, прымаюцца рэальныя захады дзеля таго, каб рэзалюцыя XIX партканферэнцыі «Аб галоснасці» з палітычнай дырэктывы ператваралася ў арганічную частку грамадскага быцця.

Я, вядома, не юрыст, да таго ж, пакуль што чамусьці не знаёмы нават з галоўнымі ідэямі праекта, вызначальнага для маёй працы, працы і дзейнасці маіх калег, заканадаўства. Аднак наспеласць многіх праблем — прававая неакрэсленасць такога грамадскага інстытута, як друк, несумяшчальнасць манаполіі на інфармацыю з кірункам на дэмакратызацыю ўсіх сфер нашага жыцця — відавочная. У гэтым сэнсе Закон аб друку павінен працаваць на незваротнасць перабудовы.

МАГЧЫМА, у гэтых нататках я залішне захапіўся цытатамі, але на заканчэнне згадаю яшчэ адну: «Прэса і нацыя разам уздымаюцца ўвышкі і разам падаюць уніз».



 

